*Не пакідайце ж мовы нашай беларускай, каб не ўмёрлі!*
*Францішак БАГУШЭВІЧ.*




# НАША СЛОВА

Штотыднёвая газета (Выходзіць з сакавіка 1990 г.)

№ 49 (261)

6 снежня 1995 г.

Кошт — 500 рублёў

СЛОВА РОДНАЕ — НАЙСВЯЦЕЙШАЕ Стар. 4.

З ГІСТОРЫІ КРАСАМОЎСТВА НА БЕЛАРУСІ Стар. 6.

## ПОСТУП ТЫДНЯ



○ **У РЭЗІДЭНЦЫІ КІРАЎНІКА НАШАЙ ДЗЯРЖАВЫ АДБЫЛАСЯ СУСТРЭЧА АЛЯКСАНДРА ЛУКАШЭНКІ З ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫЯЙ**. Гаворачы аб негатыўным уплыве палітыкі на культурнае жыццё Беларусі, Прэзідэнт адзначыў: «Культура з'яўляецца падмуркам стварэння, таму сёння яе патрэбна ставіць у аснову асноў. Эканоміка — так, палітыка — так, але культура павінна займаць найважнейшае месца ў палітыцы дзяржавы». Добра, што Прэзідэнт гэта разумее. Але без беларускай мовы ніколі не будзе беларускай культуры, і таму, надаючы найважнейшае месца культуры ў палітыцы дзяржавы, варта і беларускай мове надаваць такое ж значэнне. А інакш будзе з культурай тое, што мы сёння маем, і нават горш.

○ ***ВЫСТУПАЮЧЫ З ДАКЛАДАМ НА РЭСПУБЛІКАНСКАЙ НАРАДЗЕ КІРАЎНІКОЎ АБЛАСНЫХ, ГАРАДСКІХ І РАЁННЫХ ОРГАНАЎ УЛАДЫ, ПРЭЗІДЭНТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ АЛЯКСАНДР ЛУКАШЭНКА, У ПРЫВАТНАСЦІ, СКАЗАЎ:*** *«У цэлым у сацыяльнай сферы пакуль многа мінусаў. За апошнія тры гады ў рэспубліцы закрыты 472 клубы і дамы культуры, 524 бібліятэкі. Лідзіруе тут Гродзенская вобласць, дзе закрыты 159 сельскіх клубаў і дамоў культуры. Як я гаварыў вышэй, Гродзенская вобласць лідзіруе і па росту злачыннасці. Узаемасувязь тут прамая — чым больш будзем «эканоміць» на бібліятэках, музеях і клубах, тым больш будзем траціць на ўтрыманне турмаў, калоній і выцвярэзнікаў... Надзеі паправіць бюджэт за кошт скарачэння расходаў на адукацыю, навуку і культуру — гэта надзея сляпых убачыць сонца».*

○ **ЧАРГОВАМУ РЭФАРМАВАННЮ БУДЗЕ ПАДВЕРГНУТА ШКОЛЬНАЯ АДУКАЦЫЯ.** Наконт гэтага міністр адукацыі і навукі Васіль Стражаў паведаміў, што міністэрства ўжо каля года працуе над новай школьнай рэформай. Школьнікі ў еўрапейскіх дзяржавах, за выключэннем Беларусі, Расіі і Украіны, ужо даўно вучацца 12-13 гадоў.

○ ***ЯК СТАЛА ВЯДОМА З ДРУКУ,*** *у 1996 годзе ў нашай краіне будзе прыватызавана каля 2500 аб'ектаў дзяржаўнай уласнасці.*

○ **У ГУТАРЦЫ З КАРЭСПАНДЭНТАМІ НАМЕСНІК ПРЭМ'ЕР-МІНІСТРА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ УЛАДЗІМІР РУСАКЕВІЧ, У ПРЫВАТНАСЦІ, СКАЗАЎ:** «А тое, што некаторыя дзеячы мастацтва ідуць у палітыку, дык у гэтым няма нічога дзіўнага. Гэта нармальна. Тым больш, калі гэта — прызнаны майстар, прафесіянал у сваёй справе, які да гэтага ж карыстаецца вялікім аўтарытэтам. Ён і ў вырашэнні дзяржаўных спраў можа быць карысным для грамадства».

○ ***СТВАРАЕЦЦА НОВАЯ ГРАМАДСКАЯ АРГАНІЗАЦЫЯ*** *— Фонд Якуба Коласа, якая мае на мэце аб'яднанне ўсіх, хто гатовы працаваць дзеля ўшанавання імя народнага паэта Беларусі. Ініцыятыўная група запрашае ўсіх жадаючых прыняць у гэтай справе ўдзел і паведамляе, што звяртацца трэба па адрасу: 220012, г. Менск, прасп. Ф.Скарыны, 66-А, музей Я.Коласа. Тэлефон: 32-35-53.*

○ **ШАНОЎНЫЯ ЧЫТАЧЫ!** Да 10 снежня працягнута падпіска на перыядычныя выданні на першае паўгоддзе 1996 года. На «Наша слова» можна падпісацца ў любым паштовым аддзяленні. Кошт падпіскі на адзін месяц — 3250 рублёў, на тры — 9750 рублёў, на паўгоддзе — 19500 рублёў. Наш індэкс 63865.

## Слуцкаму збройнаму чыну — 75 гадоў




Да крыжа на магіле слуцкіх паўстанцаў у Семежаве прыйшлі случчакі і менчукі з кветкамі, вянкамі, сцягамі ды харугвамі.

**Здымак Ул.КАРМІЛКІНА.**

26 лістапада вялікая група сяброў і прыхільнікаў БНФ «Адраджэньне», Таварыства беларускай мовы, Беларускай асацыяцыі журналістаў, іншых грамадскіх і палітычных арганізацый наведала святыя месцы для сэрца кожнага свядомага беларуса — вёскі Грозава і Семежава, што на Случчыне. Яны ўшанавалі памяць адважных вояроў, якія ў 1920 годзе ўдзельнічалі ў збройным чыне — Слуцкім паўстанні за незалежнасць Бацькаўшчыны супраць імперскіх бальшавіцкіх сіл, якія за спіной Беларусі разарвалі яе паміж Савецкай Расіяй і белапанскай Польшчай.

75 гадоў мінула з тых часоў. Удзячныя нашчадкі ў месцах самых крывапралітных баёў паставілі мемарыяльныя знакі — крыжы з прымацаванымі да іх мемарыяльнымі дошкамі.

У памінальных імпрэзах каля гэтых народных помнікаў (на вялікі жаль, наша дзяржава не хоча шанаваць памяць адважных паўстанцаў мармурам ды гранітам) удзельнічалі і мясцовыя жыхары Грозава ды Семежава.

Гучалі кароткія прамовы, чыталіся вершы, спяваліся песні — гучала беларускае слова... Свята, праўда, было азмрочана выхадкай фашыстаў, якія цяпер з'явіліся і ў Беларусі. Яны, аказваецца, напярэдадні свята выпацкалі карычневай фарбай мемарыяльную дошку на крыжы ў Грозаве. Так бы мовіць, паказалі, хто, па іх уяўленні, зараз вяршыць баль у нашай дзяржаве.

**Алесь МІКАЛАЙЧАНКА.**

## «Верш тыдня» ў Бярэсці

Адметны верш з'явіўся ў берасцейскай абласной газеце «Заря». Гэты твор запаў у душу многім. Хачу падзяліцца асабістымі ўражаннямі ад яго.

Дарэчы, твор быў надрукаваны ў рубрыцы «Верш тыдня». На маю думку, верш вельмі ёмісты на гістарычныя і культурныя беларускія алюзіі, напаміны. Чаго варты, напрыклад, выраз *«Вітаўт княжыць цяпер на Літве»*. Ці *«Коні, коні... нячутна плывуць туманамі»*. Хіба гэта не з «Дзікага палявання караля Стаха», не светлая памяць Уладзіміру Караткевічу ў яго юбілейныя дні?

А выраз *«Закрычы і прачніся»* — ці гэта не зварот да самасвядомасці грамадзян Беларусі? А вось і сам твор.

***Мікола ПРАКАПОВІЧ***

### Чаканне

*Туманы, туманы...*
*Цішыня, адвячорак.*
*Панядзелак цяпер ці*
*аўторак?*
*Вітаўт княжыць цяпер на Літве*
*ці Пазьняк —*
*зноў харугвы выводзіць*
*у морак?*
*Злыбяды не зваюеш ніяк...*
*Коні, коні...*
*Нячутна плывуць туманамі,*
*растаюць, як Пагоня над намі*
*і рыкаюць у пушчах зубры,*
*ці адчай —*
*вырывае душу з каранямі?*
*Нашы душы трывожна*
*маўчаць...*
*Родны край мой...*
*без меры цярплівы, маўклівы.*
*Золкі шлях — тумановае мліва,*
*то сляпы павадыр, то глухі,*
*то жабрак —*
*у суседзяў канючыць лісліва*
*на нішчымніцы сцёрты мядзяк.*
*Закрычы і прачніся —*
*далёка да зорак!*
*Цішыня на Літве.*
*Адвячорак...*

**Пазнаёміў В.БАРБОЛІН.**

*Маладая Беларусь*

## Не забылася, дзе жыве

Давялося мне неяк у святочны дзень ехаць на тралейбусе па маршруце № 20 з Серабранкі на Чэрвеньскі рынак (у Менску). Вадзіцель тралейбуса — маладая жанчына з прыгожымі бялявымі валасамі ветліва аб'яўляла ўсе прыпынкі на беларускай мове. Нагадвала маладзейшым, каб паважалі інвалідаў і старэйшых, уступалі ім месца і не забывалі прабіваць талоны, калі няма праязнога месячнага білета. Я пацікавіўся, як яе завуць.

— Клічуць Лёля.

— А чаму аб'яўляеце па-беларуску?

— Мы ў сям'і — я і мой муж, сталяр — гаворым па-беларуску. Гэта наша родная мова.

Я падзякаваў ёй і выйшаў. Глянуў на нумар тралейбуса: 23-06. Прыемна, калі вадзіцелі грамадскага транспарту ветлівыя і культурныя, паважаюць сябе і пасажыраў.

**С.БАРЫС.**

*Меркаванні*

## Працаваць і верыць

Здаецца, пакрыху пачынае аціхаць той душэўны боль, які ахапіў мяне адразу пасля таго, як былі аб'яўлены вынікі рэферэндуму. Эпітэты, якія прыходзілі ў галаву і былі адрасаваны свайму народу, памякчэлі. Адчуванне паразы, якое ўзнікла пасля паведамленняў прыдворнага тэлебачання і радыё, паступова знікла, калі даведаўся пра сапраўдныя лічбы. І тады, здаецца, змог даць сабе адказ на шматлікія «чаму?».

У 1989 годзе падчас Усесаюзнага перапісу насельніцтва ўжо адбыўся рэферэндум. Тады 80,2 працэнта беларусаў выказаліся, што менавіта беларуская мова з'яўляецца іх роднай. Вынікі перапісу і леглі ў аснову Закона аб мовах. Цяпер жа за двухмоўе раптам выказалася 80 працэнтаў тых, хто прыйшоў галасаваць. Чаму такія вялікія разыходжанні? І чаму нават тыя 20 працэнтаў, хто жадаў, каб дзеці вучыліся толькі на беларускай мове, не маюць такой магчымасці?

Справа ў тым, што ў нас усё залежыць ад таго, як да вынікаў рэферэндуму паставяцца чыноўнікі і настаўнікі. Вось прыклад. Яшчэ 25 жніўня г.г. я спытаў у дырэктара школы, дзе працую, пра колькасць

*(Заканчэнне на с.5.)*

# гэта мы!

з заявамі ў школы, каб іх дзеці перайшлі на расійскую мову навучання, каб вывучалі гісторыю Беларусі такой, якая патрэбна вялікадзяржаўнікам. Калі ж свядомы беларус нагадае набрыдзям і манкуртам, што беларускую мову, беларускую культуру мы не пашыраем прымусова за межы нашай спрадвечнай радзімы, за тысячы кіламетраў ад той зямлі, якая дадзена нам Богам, то адразу чуецца рык дзяржымορды, а праз дзень, праз другі падуладныя сродкі масавай інфармацыі даюць «абгрунтаванне» ўслужлівых халуёў, нават на беларускай мове, але добра чуцён вядомы акцэнт.

Каб не згасла беларуская мова, каб не ператварыцца ў «Северо-Западный край», трэба дзейсна любіць сваю Бацькаўшчыну, трэба хоць бы ўласных дзяцей выгадаваць у беларускай мове, трэба навучыць сваіх жонак, сваіх мужоў, калі так здарылася, што беларускай мовы яны не ведаюць. А тым розным згуртаванням, якія створаны на Беларусі, але маюць іншую нацыянальную арыентацыю, трэба выразна сказаць, што Беларусь — іх родныя мясціны, што яны павінны паважаць культуру і мову беларускага народа».

Выступленне старшыні рэгіянальнай арганізацыі «Бацькаўшчыны» **Сяргея Яцкевіча** паказала, якім высокім навуковым і адукацыйным патэнцыялам валодае «Бацькаўшчына» ў Беларусі і ў свеце. Так, прэзідэнт «Бацькаўшчыны» Р.Гарэцкі з'яўляецца віцэ-прэзідэнтам АН Беларусі, практычна ўсе абласныя арганізацыі ўзначальваюцца дактарамі і кандыдатамі навук. Тое ж самае маем у замежжы. Пасяджэнне экспертаў па пытаннях беларускай дыяспары «Беларусы ў Кіеве», напрыклад, паказала, што сярод украінскіх акадэмікаў і дырэктараў навуковых установаў шмат беларусаў па нацыянальнасці.

Адна з формаў работы «Бацькаўшчыны» — міжнародная навуковая канферэнцыя. На канферэнцыях, якія прайшлі ў Брэсце, абмяркоўваліся праблемы рэгіянальнай адукацыі, культуры нацыянальных меншасцяў Беларусі і праблемы адукацыі беларусаў блізкага замежжа. Рыхтуюцца канферэнцыі да юбілею славутай Брэсцкай брацкай школы і да юбілею падпісання Брэсцкай уніі, якая, як заключыў выступоўца, дапамагла беларусам захаваць родную мову і паўплывала на развіццё беларускай дзяржаўнасці, адукацыі і культуры. Цяпер управа «Бацькаўшчыны» рыхтуецца да канферэнцыі па пытаннях культуры і адукацыі беларускага замежжа.

Апошняе пытанне набывае значную цікавасць у сувязі з тым, што ў Прыбалтыцы і на Украіне адкрываюцца беларускія школы і класы, ствараюцца дзіцячыя сады.

Забеспячэнню адукацыйных патрэб шматмільённай беларускай дыяспары паспрыяе і першы ў Беларусі Інстытут гуманістыкі, бізнесу і права, які будзе працаваць у Менску і які ствараецца сіламі «Бацькаўшчыны». Навучальнай дысцыплінай стане беларусазнаўства, міжнароднае эканамічнае права і інш.

**Станіслаў Валодзька**, старшыня суполкі ў Даўгаўпілсе, гаварыў пра балючыя праблемы беларусаў-неграмадзян, якія пазбаўлены многіх правоў і якім забаронены бязвізавы праезд у Беларусь, да родных. Сп. Валодзька зачытаў зварот беларусаў Латвіі да Прэзідэнта Лукашэнкі з просьбай вырашыць іх пытанне на дзяржаўным узроўні. У Даўгаўпілсе, адзначыў выступоўца, працуе беларуская нядзельная школа і ансамбль «Купалінка».

У выступленнях удзельнікаў сустрэчы з Прыбалтыкі (**П.Малафея**, **М.Астравумавай**, **Н.Савінай, А.Карповіча** і інш.) прасочвалася аптымістычная нота: ад таго, што беларусы ў іх краінах набываюць нацыянальны гонар, павагу да сябе і аб'ядноўваюцца ў цэнтры беларускай культуры (як у Шальчынінкай, дзе шчыруе П.Малафей), у культурныя і творчыя суполкі (як у Рызе, дзе імі кіруюць А.Карповіч, В.Целеш, М.Ярчак і справа ўжо ідзе да стварэння Цэнтра), намагаюцца адкрываць беларускія школы, класы і садкі, праводзяць разнастайныя культурныя мерапрыемствы. У выступленнях Астравумавай і Савінай са Згуртавання беларусаў Эстоніі (ЗБЭ) прагучала такое: «Усё зробім дзеля таго, каб нас ведалі і зналі ў Эстоніі», «Мы хочам паказаць твар беларускай культуры прадстаўнікам народа, з якім жывём, і інш.». У снежні БЭЗ урачыста адзначыць выхад у свет кнігі паэзіі свайго сябра У.Дзехцярука, што неўзабаве ў Эстоніі пройдзе беларускае фальклорнае свята і адбудзецца выстава мастакоў Балтыі.

Улады краін Балтыі, са слоў выступоўцаў, не перашкаджаюць беларусам ладзіць свае нацыянальныя асяродкі, матэрыяльна іх падтрымліваюць і не бяруць арэндную плату за памяшканні.

Ад імя грамадскай асацыяцыі «Шчыт Чарнобылю», якая прадстаўляе Міністэрства ўнутраных спраў, пракуратуру і суды, слова ўзяў **Сяргей Собалеў**. Ён расказаў, што асацыяцыя ініцыіруе пабудову капліцы ў памяць ахвяр Чарнобыля — 9 лістапада быў пастаўлены крыж на месцы будучага храма. «Я лічу, — падкрэсліў выступоўца, — што асацыяцыя «Шчыт Чарнобылю» — гэта тая магчымасць, дзе мы можам паказаць, наколькі важныя, магутныя і перспектыўныя аб'ядналыя высілкі грамадскіх арганізацый, дзеля таго, каб дапамагчы роднай Беларусі хоць бы ў такім плане, што я і іншыя пачынаем актыўна вывучаць беларускую мову і ў арыгінале чытаць класікаў і беларускамоўную прэсу, якія ў нас — старонка новага жыцця нашай Бацькаўшчыны».

На другі дзень сустрэчы працаваў **«круглы стол»**. Прысутнічалі ад Міністэрства адукацыі і навукі Г.Пяцігор і ад Міністэрства культуры і друку І.Яновіч. Выступілі: У.Галуза, А.Баршчэўскі, М.Ярчак, У.Дзяржыцкі, З.Клыга, Ф.Нюнька, М.Астравумава, В.Целеш, Л.Лыч, М.Люцко, Я. Чыквін, Я.Брыль, В.Арцюшэўскі, Г.Сурмач, Р.Гарэцкі, В.Коўтун і інш.

**Уладзімір Галуза** з Новасібірска асвяціў дзейнасць Беларускага культурнага таварыства «Беларусы Сібіры», якім была арганізавана сёлета прадстаўнічая навуковая канферэнцыя па пытаннях беларускай дыяспары. Сп. Галуза адзначыў, што работа таварыства накіравана на ўмацаванне ідэі дзяржаўнасці Беларусі і на дапамогу ёй па ўсіх напрамках. І калі «Бацькаўшчына» клапоціцца аб інтарэсах сваёй дзяржавы, то яна павінна клапаціцца і аб геапалітычных, стратэгічных і эканамічных інтарэсах беларусаў у Сібіры.

Гутарка ўдзельнікаў сустрэчы за «круглым сталом» прайшла ў рэчышчы, вызначаным праграмай. Абмяркоўваліся наступныя пытанні: адукацыя беларускай моладзі з блізкага замежжа ў навучальных установах Беларусі; неабходнасць дзяржаўнай і юрыдычнай дапамогі з боку Беларусі ў справе набыцця беларусамі замежжа беларускага грамадзянства; бязвізавы ўезд на Беларусь; матэрыяльная дапамога Беларусі ў забеспячэнні патрэб беларусаў замежжа ў галіне адукацыі і культуры; фундатарства ў развіцці культуры беларускага замежжа; арганізацыйныя моманты ў дзейнасці беларускіх суполак за мяжой і на Бацькаўшчыне; выкананне праграмы «Беларусы ў свеце». Пералічаныя пытанні знайшлі адлюстраванне ў апублікаваным на старонках «Нашага слова» (№48) дакладзе Г.Сурмач. На завяршэнне работы «круглага стала» адбылася прэзентацыя кнігі А.Ваніцкага «Да гісторыі беларускай эміграцыі ў Нямеччыне» — выйшла ў серыі Беларускага фонду Сораса «Адкрытае грамадства» (выдавецтва «Тэхналогія»).

**Ірына КРЭНЬ.**

*Янка БРЫЛЬ,*
*народны пісьменнік Беларусі*

# У СВЕТЛАЙ ВЕРЫ

І мне, дарагія сябры, прыемна быць сярод вас, беларусаў або прыхільнікаў беларушчыны з розных краін далёкага ці блізкага замежжа, зноў сустракацца з вамі, бачыць і чуць вашу шчырасць, заклапочанасць далейшым лёсам нашай мілай, шматпакутнай Радзімы, нашай мовы, нашай будучыні.

І ад выступленняў, і ад «круглага стала» ёсць у мяне і такое ўражанне: амаль усе мы, па-мойму, значна лепш ведаем, што і як павінны рабіць другія, а менш пра тое, што павінны рабіць мы самі, прытым рабіць як найлепшым чынам. Была, вядома, крытыка і справядлівая, якое нельга не ўлічваць, аднак было і тое, што можна назваць то наіўным, то дробязным патузваннем, у тым ліку і кіраўніцтва нашага Згуртавання...

І я з належнай пашанай адношуся, — пачнём з жанчыны, — і да энергічнай ды талковай, абаяльнай у сваёй шчырасці Ганны Сурмач, і да дастойнага прадстаўніка славутага роду Гарэцкіх, змагароў і пакутнікаў, выдатнага беларускага вучонага Радзіма Гарэцкага. Абое яны, як гаворыцца, на сваім месцы, і добра прыйшлося б падумаць, кім іх сёння можна адпаведна замяніць, калі наогул варта апускацца да такое недарэчнай думкі. Ім проста трэба добра памагаць, а крытыкаваць — канструктыўна, у імя нашай агульнай справы.

Два дні мы працавалі пад гасцінным дахам Дома літаратара, што таксама ж пэўным чынам сведчыць пра ўдзел пісьменніцкай супольнасці ў барацьбе і працы нашага Адраджэння. Чатыры сотні членаў Саюза беларускіх пісьменнікаў не складаюцца, вядома, з адных геніяў ці класікаў, — такога не бывае ў ніводнай літаратуры на свеце. Ёсць і ў нас нейкая колькасць людзей выпадковых, інертных ды кан'юнктурных. Аднак жа большасць у нас, што прыемна падкрэсліць, гэта людзі, якія, як той коласаўскі Сымон-музыка, пачыналі з прызвання, а потым ужо набывалі прафесійнасць хто з большым, хто з меншым поспехам, колькі ўжо каму з нас дадзена.

Страшная яна — гісторыя нашай пісьменніцкай супольнасці, пачынаючы з канца дваццатых гадоў, калі стаў па-д'ябальску разгойдвацца гулагаўскі генацыд, які давёў калісьці шматлюдную арганізацыю да сарака членаў, якім быў наш Саюз пісьменнікаў адразу пасля вайны, калі ўжо і я меў гонар быць прынятым у яго.

Праўда, у мяне, як у «заходніка», была і свая нацыянальная перадгісторыя. Вясной трыццаць восьмага года, калі я ўжо не толькі актыўна пісаў, але і пачаў друкавацца ў віленскім «Шляху моладзі», на вайсковай камісіі ў славутым сёння Міры польскі ўжэнднічак спытаўся ў мяне: «Народовосць?» Адказваю: «Бялоруска». Ён глядзіць на мяне, потым запісвае і зноў пытаецца: «Мова мацежыста?» Адказваю: «Бялоруска». Зноў глядзіць, зноў запісвае... А менш чым праз год мяне, радавога марской пяхоты ў Гдыні, як аднаго з больш пісьменных у роце, узялі на часовую дапамогу ротнаму пісару. Са зразумелай цікавасцю я перш за ўсё заглянуў у свой «зэшыт эвідэнцыйны», салдацкую кніжку. І там стаяла — замест «бялорусін» — «тутэйшы», а замест «бялоруска» — «па-прастэму». Вось так далікатна рабілася.

Працягам асіміляцыі і для мяне былі пасляваенныя дзесяцігоддзі служэння роднай літаратуры, генацыд зацяжны, больш прадуманы, партыйна, дзяржаўна планамерны, разлічаны на поўную і канчатковую ліквідацыю і роднай мовы, і свайго вобліку. І сумна, балюча бывае ад легкадумных ці злосных незаслужаных папрокаў у адрас нашай літаратурнай супольнасці, у той час, калі, гаворачы пра творчую інтэлігенцыю Беларусі, якраз амаль на адных пісьменніках і ляжала нялёгкая адказнасць за родную справу, і мы з гэтай адказнасцю як мага стараліся спраўляцца. Скажам гэта не без гонару.

Цяпер усе мы апынуліся ў новай атмасферы антыбеларускасці, смярдзючай і па-старому, і па-новаму. І я хачу, з вашага дазволу, звярнуцца да народнай мудрасці, народнага аптымізму, дзе ўсё называецца сваім імем і ў перапрошванні за грубасць не мае патрэбы. Даўно я чуў гэта ў сваёй вясковасці і ўсё часцей успамінаю гэтую прымаўку цяпер, у новай-няновай атмасферы: «Перажылі лета гарачае — пераЖывём і дзярмо сабачае». Беларусь — з яе слаўнай гісторыяй, з яе прыгожай і надзейнай у жывучасці мовай, з яе працавітым, мужным, сумленным і мудрым народам — жыве і будзе жыць!

У фальклоры, на гэты раз расійскім, ёсць і такая мудрасць: «Нет худа без добра». Трагікамедыя рэферэндуму вучыць нас не раздрабняцца на па-сектанцку слабасільныя групоўкі, не фанабэрыцца кожнаму сваім выключным патрыятызмам, а разумна аб'ядноўвацца дзеля святое справы Адраджэння і працаваць, працаваць. Вучыцца гэтаму нястомна і самааддана.

Яшчэ крыху асабістага. У маіх бацькоў я дзесятае дзіця, змалку прывык быць меншым. А вось гляджу, што і тут, сярод вас, я ўжо найстарэйшы. А ўсё ж і мне яшчэ хочацца жыць, працаваць, хочацца верыць! І я ад душы жадаю ўсім вам, мае дарагія, светлай веры ў нашу будучыню і плённай працы ў добрым здароўі!

# Падтрымаць беларусаў у свеце — ганаровая і важная справа Урада Рэспублікі Беларусь

Удзельнікі сустрэчы кіраўнікоў беларускіх суполак у блізкім і далёкім замежжы, якая адбылася 11—12 лістапада ў Менску, прынялі зварот да Вярхоўнага Савета, Прэзідэнта, Урада Рэспублікі Беларусь, у якім выказалі заклапочанасць грамадска-палітычным і нацыянальным становішчам на Бацькаўшчыне, дыскрэдытацыяй ідэі дзяржаўнага суверэнітэту Рэспублікі Беларусь, парушэннем статуса дзяржаўнасці беларускай мовы і адмовою ад гістарычных сімвалаў беларускага народа. Адначасова спадзяёмся, гаворыцца ў звароце, што крызіс будзе пераадолены на падставе дэмакратычных каштоўнасцяў і Рэспубліка Беларусь больш актыўна будзе ўваходзіць у сусветнае супольніцтва народаў як дэмакратычная незалежная дзяржава.

Удзельнікі сустрэчы перакананы ў тым, што толькі поўнае нацыянальнае адраджэнне Беларусі, дзяржаўны ранг беларускай мовы могуць гарантаваць духоўную і рэальную, практычную сувязь дыяспары з Радзімай.

У ходзе абмену думкамі ўдзельнікамі сустрэчы былі падняты шэраг пытанняў, вырашыць якія без дзяржаўных уладаў нельга. Дэлегаты канстатавалі, што прынятая ўрадам Рэспублікі Беларусь праграма «Беларусы ў свеце» практычна амаль не выконваецца.

Выказваюцца наступныя прапановы ўдзельнікаў сустрэчы па ўсталяванні сувязі з суайчыннікамі і аказанні дапамогі суродзічам на абшары СНД і ў краінах далёкага замежжа:

1. Больш актыўна аказваць дапамогу беларусам замежжа ў адкрыцці беларускіх культурна-асветных цэнтраў, рэлігійных храмаў, школ, бібліятэк, музеяў, развіцці перыядычнага друку, радыё і тэлебачання; забяспечыць сістэматычны абмен неабходнай інфармацыяй паміж Беларуссю і краінамі пражывання беларусаў.
2. Выпрацаваць і прыняць Закон РБ аб абароне правоў замежных беларусаў, стварыць адпаведную дзяржаўную структуру, як гэта зроблена ў Расійскай Федэрацыі, на Украіне і ў іншых сучасных дзяржавах.
3. Забяспечыць магчымасць для беларусаў замежжа падпіскі на перыядычныя выданні, што выходзяць у Беларусі.
4. Надаць статус найбольшага эканамічнага спрыяння прадпрымальнікам беларускага паходжання з эміграцыі, якія жадаюць прыняць удзел у вырашэнні эканамічных праблем нашай краіны (пры заключэнні кантрактаў, набыцці маёмасці, стварэнні сумесных прадпрыемстваў на Беларусі і г.д.).
5. Забяспечыць рэальныя ўмовы для вяртання на Беларусь асоб беларускага паходжання, жадаючых пераехаць на Бацькаўшчыну.
6. Выкарыстоўваць лепшыя інтэлектуальныя сілы беларускай дыяспары пры вырашэнні праблем духоўнага і эканамічнага адраджэння Беларусі, выхаду яе з крызісу.
7. Заключыць пагадненні аб рэгулярным інфармацыйным абмене з тэлебачаннем суседніх краін з улікам патрэб беларускай дыяспары і нацыянальных меншасцяў у Беларусі.
8. Устанавіць бязвізавы рэжым уезду ў Беларусь для беларусаў краін Балтыі.
9. Спрыяць дзейнасці грамадскіх арганізацый, якія ладзяць сувязі з беларускім замежжам, ствараць роўныя ўмовы іх падтрымкі з боку дзяржавы.
10. Аказаць падтрымку Згуртаванню беларусаў свету «Бацькаўшчына» ў выданні газеты для беларусаў замежжа.
11. Увесці спрошчаную працэдуру набыцця грамадства для выхадцаў з Беларусі і іх нашчадкаў.
12. Забяспечваць праз сродкі масавай інфармацыі грамадзян Беларусі звесткамі пра жыццё беларускай дыяспары.

Удзельнікі сустрэчы выказалі ў звароце спадзяванне, што клопаты замежных беларусаў не застануцца без увагі ўлад Рэспублікі Беларусь.

Згадкі




Калі 2 студзеня 1968 года я прыйшоў на работу ў энцыклапедыю, Ян Аляксеевіч Скрыган працаваў там загадчыкам літаратурна-кантрольнай рэдакцыі. Тады ён яшчэ падпісваўся Янкам, і мы, маладыя, звалі яго дзядзька Янка. Я чуў яго як пісьменніка і раней, чытаў яго творы, але толькі тут звярнуў увагу, што ён гаворыць не так, як большасць з нас. Яго гаворка нейкая вельмі ж ужо свойская, па-беларуску самабытная, па-народнаму жывая, нязмушаная, часам з нязвычным сакавітым слаўцом, нават дыялектным, слуцкім. Усё гэта надавала ёй своеадменны каларыт, сваю акрасу, прыцягальнасць. Часам ён карыстаўся формамі, якія я чуў ад старых людзей і дома на Слонімшчыне: хадзіцьму, брацьмем, рабіцьмем. Гэта таксама спыняла ўвагу як нешта блізкае, знаёмае.

Сумесная праца, пошук лепшага выказвання ў такім спецыфічным стылі, як энцыклапедычны, былі няпростымі, часамі нават цяжкімі, але цікавымі, многа давалі ў разуменні, адчуванні слова, у рэдактарскай мазольнай працы.

Дзядзька Янка заўсёды амаль спакойны, роўны, інтэлігентны, умеў слухаць, не навязваць адразу сваёй думкі, але ўмеў і пераконваць, прапанаваць аптымальны варыянт у духу народнай мовы, яе ўнутраных законаў, асабліва калі ішоў пошук тэрміна, найдакладнейшай перадачы зместу, сэнсу паняцця, з'явы, закона. Скрыган заўсёды скіроўваў да глыбінь народнага слова, невычэрпных багаццяў нашай роднай мовы. Колькі было гэтых бясконцых пасяджэнняў, абмеркаванняў! Пад кіраўніцтвам Яна Аляксеевіча збіраліся Міхась Клышка, Ефрасіння Фешчанка, Валянцін Рабкевіч, Яўген Рапановіч, Мікола Лобан, Ірына Крэнь, Аляксандр Болсун, многія іншыя.

Я шчаслівы, што ведаў гэтага выдатнага чалавека, пісьменніка высокай творчай культуры, меў шчасце, кажучы яго словамі, калегаваць, таварышаваць з ім больш за дваццаць гадоў. Ад дзядзькі Янкі не раз чуў чытанне з рукапісу, з ліста яго новыя рэчы. Зразумеў, слухаючы яго тлумачэнні, што такое рытм прозы, як ашчадна павінен ставіцца кожны, хто мае справу са словам, дачыненне з ім, да гэтага нашага найдаражэйшага багацця, сапраўды неацэннага скарбу.

Сёння, перачытваючы яго творы, я з новым хваляваннем і радасцю, захапленнем бачу, які гэта быў чарадзей слова, як ён тонка яго вычуваў, як ведаў і адчуваў яго пахі і колеры, нюансы і пераліві, шматфарбнасць і шматзначнасць, значэнні і іх адценні, як па-майстэрску скарыстоўваў усе гэтыя багацці як пісьменнік з яго простай, натуральнай, музычнай фразаю, людскім беларускім сінтаксісам, найбагатшай лексікай.

«Маю творчую ўвагу, — пісаў Я.Скрыган у артыкуле «Найпершая тайна ў слове», — хвалюе самае дарагое — Радзіма, бацькаўшчына, адданасць, сумленне, добрасць, хараство, праўда. Пра ўсё гэта трэба пісаць простым народным словам і натуральнаю моваю, каб яно як найлепш дайшло да чытача». О, як ён умеў гэтую сваю творчую звышзадачу душы ўцелясняць у сцісла, паэтычна, дакладна, немудрагеліста пабудаваны сказ, ёмка і даходліва выказаную думку, лёгка, празрыста, даступна вышукаваную фразу!

«Сіла мастацкага твора ў тайне слоў, у меры іх эстэтычнай слушнасці ў фразе», — сказаў Я.Скрыган у адным інтэрв'ю. Гэтую «эстэтычную слушнасць» слова ў фразе пісьменнік пільнаваў найболей, сачыў за ёю ўсё жыццё.

Слова, мова — гэты, па словах самога майстра, — «галоўны знак» бацькаўшчыны, якім «нельга грэбаваць, бо гэта народ», — былі яго найпершай любоўю ад маладосці і да апошняга дыхання. Гэтая любоў, гэтае захапленне і найвялікшая пашанота да яго вялікасці слова — на кожнай старонцы яго твораў, успамінаў, спецыяльных артыкулаў, прысвечаных культуры роднага слова.

Люблю перачытваць яго кніжку «Некалькі хвілін чужога жыцця». Маю яе першае выданне з такімі дарагімі для мяне словамі аўтара: «Янку Саламевічу на ўспамінак. Вельмі сардэчна. Ян Скрыган. 6.8.79». Цяпер я перачытаў яе другое, дапоўненае выданне 1990 года. Акрамя выдатных успамінаў пра Купалу, Коласа, Бядулю, Гартнага, Зарэцкага, Чорнага, Галавача, Каваля, Баранавых, Калюгу, Хурсіка, Броўку, Мележа, Гаўрука, Гарэцкага, Куляшова і інш., спецыяльна звярнуў увагу на скрыганова слова — свежае, гаваркое, крамянае, любае.

Ну, сапраўды, Скрыган напісаў бы папраўдзе, ці многа разоў сёння можна напаткаць у друку такія моўныя россыпы, смачныя словы і іх формы, як падслуханыя і засвоеныя аўтарам яшчэ з маленства або прыдбаныя ў час пісьменніцкай працы. Іх хочацца слухаць, аглядаць, браць на зуб. Вось некаторыя: ён тут жа замкнуўся ў самога сябе; зойдзеш дзён чараз тры; я ведаў адну датклівую рысу яго характару; мабыць, ад халасцяцкага яго жыцця ў пакоі ўсё выглядала так, нібы пастаўлена выпадкова ці на пакуль што; непадаткі характар; ґардаваты (чалавек); кантралёрка; лапцявата ступаючы; дзівотлівыя вырабы; конча трэба; закаціцца ў рэстаран; згаварылі пакой і Броўку; здзівіўшы вочы, Броўка перадаў нумар мне; праз тыя вусы ён быў не зусім падобны на самога сябе; я не ведаў, як пасупярэчыць гэтаму; ён (Ю.Гаўрук) адразу быў відзён па мажной раздабрэлай фігуры (сёння на радыё і тэлебачанні гавораць ма́жнай, перастаўляючы націск, а не так, як гавораць у народзе. — Я.С.); варушкая, імклівая (жанчына); першага ж дня мы з Алесем Бачылам да яго (М.Танка) і прыбеглі; сховань; ніякіх гнявоў між нас няма; звінючыя пляшкі; дзяркатыя гудкі паравозаў; не́здары; мярцвяны голас; збыў сваю бяду; што ж там за жонка ў яго, вільня нейкая; нас судзілі на выгнанне; сказаць на першае вока; бывалешнія назвы; сутачкі (вузкае месца паміж будынкамі; памятаю гэта слова з маленства і вось сустрэў у Скрыгана. — Я.С.) дамыкрасуны; тоненькі сцяблік маку; ісці ўпоравень часу; захлёбістая прамова і г.д. і г.д.

Я.Скрыган увесь час вёў пошук свежых, можа на першы погляд і не зусім звыклых, але так патрэбных мове слоў, пашыраў іх у літаратурным абыходку, у нататках абгрунтоўваў іх права на ўжыванне ў літаратурнай мове. Праз яго артыкулы праходзіць думка аб праўдзе мовы, аб той натуральнасці, дакладнасці, адпаведнасці сэнсу, эмацыянальна-экспрэсіўным, стылістычным адценням, якія гучаць у жывой мове народа. Пісьменнік на канкрэтных прыкладах паказваў, як можна сказаць па-беларуску дакладней, выразней, правільней. «Мастацкі твор, — пісаў ён, — павінен несці праўду вобраза. Няправільны жэст, недакладнае, не да месца пастаўленае слова, прыдуманая, не ўласцівая жывой гаворцы фраза, — дзе ж тут у праўду вобраза паверыш» («Блізкія сэрцу думкі»).

А вось прыклады з артыкула «Чары слова», да якіх трэба прыслухацца яшчэ раз усім — пісьменнікам, журналістам, публіцыстам, рэдактарам: «Замест таго, каб літаратурную мову папаўняць народнай — яе свабодным дыханнем, гнуткасцю, каларытам, мы прывучаем сябе толькі да «абавязковых» і «агульнапрынятых» слоў і іх лічым за норму. І, вядома, пазбаўляем сябе не толькі жывога трапятання сказа, а і свайго аблічча.

**Давайце прыгледзімся да сябе. Ну, вось, хіба не заваражыла нас слова *нібы*?** Часамі сям-там мы пакарыстаемся яшчэ яго сінонімамі *быццам бы* і *як быццам.* А жывая гаворка карыстаецца не толькі імі. У жывой гаворцы мы можам сказаць: ездзіў у лес: грыбы *як* з-пад зямлі вылазяць; ён гаварыў сурова, *усё роўна* як загадваў; стаіш і маўчыш, *усё адно* як чужы; кветкі на лузе *як бы* кланяліся нам; загневаўся, *нібыта* яго пакрыўдзілі. Прыслухайцеся, як глуха гучала б мова, калі б ва ўсіх гэтых выпадках напісалі толькі *нібы*. А яшчэ ёсць народнае слова *«бытта»:* «Маўчыць, *бытта* яму ўсё роўна»...

Бадай што скрозь пішам толькі *калісьці, інакш,* а бывае, што вобразы і каларыт патрабуюць напісаць і *коліс*ь, і *некалі*, і *іначай*. Пішам: *міжвольна, павольна, штодзённа, штохвілінна, задуменны, сцяжынка, хусцінка, рачулка, хацінка, дзіўна, былы* нават тады, калі натуральней было б напісаць *міжволі, паволі, штодня, штохвіліны, задуманы, сцежачка, хустачка, рэчачка, хатка, дзіва, колішні*. Пішам: дарога пайшла *па ўскраіне лесу,* калі такой ускраіны ніколі не было, а ёсць узлесак. Дарога пайшла *па ўзлеску*...

У літаратурнай практыцы ўсё больш мы прывыкаем да падмены слоў і нават канструкцый фраз на такія, што не ўласцівы мове. Гэта робіцца, мабыць, механічна. Проста таму, што мы добра ведаем расійскую мову і міжволі, не задумваючыся, пераносім яе формы на сваю мову. І ў гэтым не было б нічога благога, каб такое запазычанне рабілася ад патрэбы мовы.

Часціна *было*. У расійскай мове яна ўжываецца пры мінулым часе дзеяслова, каб сказаць, што дзея пачалася або меркавалася, але не адбылася па нейкіх прычынах: «Он собрался *было* уже в дорогу, но передумал». Прычым гэтая часціна не мяняецца ў залежнасці ад роду займеннікаў. У беларускай жа мове яна абавязкова мяняецца ад роду займеннікаў: пры мужчынскім — *быў*, пры жаночым — *была,* пры ніякім — *было*. «Ён *быў* ужо сабраўся ў дарогу, але перадумаў», «Яна *была* сабралася ўжо ў дарогу, але перадумала», «Яно хацела *было* пабегчы, але не асмелілася». Мы ж часам забываем на гэты закон і пішам *было* ва ўсіх трох родах.

Механічна ў творным склоне пачынаем ужываць прыназоўнік *за:* паслаў *за* доктарам; паехаў *за* абсталяваннем, калі тут патрэбны прыназоўнік *па* ў вінавальным склоне: паслаў *па* доктара; паехаў *па* абсталяванне. Не *за кім* і *за чым* пасланы, з'ездзіць, схадзіць, а *па што* і *па каго*. Прызнаюся, што нядаўна я прачытаў у газеце: «Навошта ездзіць *за* экзотыкай на край свету» і не адразу зразумеў, пра што сказана. Памятаючы, што *за* — гэта следам за кім, наўздагон за кім, я так і зразумеў, што следам за ёю. І толькі пасля ўжо, дачытаўшы да канца фразу, дзе сказана, што экзотыкі колькі хочаш і дома, пад бокам, здагадаўся, што гэта *па яе*. Я не жартую і не прыкідваюся: я прывык за словам бачыць той сэнс, які памятаю з матчынай мовы, з дзяцінства. Гэта яшчэ раз гаворыць толькі пра тое, як небяспечна «падпраўляць» мову...

Пішам і гаворым часам: пасмяяўся *над* ім; жаніўся *на* ёй; дзякую *вас;* прабачце *мяне; адкрыў* кнігу. Але гэта калькавы пераклад. Бо па-беларуску трэба дзякаваць не *каго*, а *каму* — дзякую *вам*, прабачаць не *каго*, а *каму* — прабачце *мне*. І пасмяяцца не *над кім*, а *з каго;* ажаніцца не *на кім*, а *з кім*...

Нядобра пісаць *зубронак*, бо трэба *зубраня* або *зубранё*, гэтак жа, як *цяля, ягня, птушаня*.

Вось, напрыклад, якімі сінонімамі, блізказначнымі словамі прапанаваў пісьменнік карыстацца, каб не паўтараць адно і тое слова *вырашыў: надумаў, захацеў, сабраўся, насмеліўся, намысліў, намерыўся*. «Сінонімы, — адзначаў Я. Скрыган у «Беглых запісах», — багацце мовы; яны ніколі не варагуюць».

Вось яшчэ колькі роздумаў-думак з «Беглых запісаў»: **«Вось якімі багатымі адценнямі** жывая мова надзельвае некаторыя разуменні. Скажам, жанчына: дзяўчынка, дзяўчына, дзяўчо, дзеўчанё, дзеўчаня, дзеўка, дзявуля, дзявуха, маладзіца, кабета, жанчына, баба. У кожным слове свая эмацыянальная акраса, за кожным стаіць свой вобраз і век — малады, сярэдні, пажылы. Але перакладаючы з расійскай «деваха», мы пакінем лепш кальку, а сказаць дзеўка, дзявуля не асмелімся»; «Пільнуючыся народных канструкцый, вось як шырока можна карыстацца прыназоўнікам *на*: пісаць на адрас, дом на восем кватэр, хата на тры акны; п'еса на два акты, раман на чатыры часткі, збор твораў на пяць тамоў; бочка на капусту, мех на бульбу; пасведчанне на заканчэнне школы, квіток на здачу грошай у касу; рашэнне на выдачу ордэра, пастанова на засяленне дома, загад на прызначэнне на работу, пагадненне на абмен дэлегацыямі, дагавор на пастаўку абсталявання, указ на ўзнагароджанне (а яшчэ лепш — на ўзнагароду)»; «Цудоўнае слова найсвяцейшы — сінонім свяшчэннага. Найсвяцейшы наш абавязак — абараняць Радзіму». Можа вы не з усім тут згодныя? Дык і добра.

16 лістапада Яну Скрыгану споўнілася 90. Вазьміце і пачытайце яго творы. Разам з ім памаліцеся ціха нашаму роднаму беларускаму слову, якое ён так любіў, якое шанаваў і песціў з такою мілатою і пашанотаю, бо любіў свой край, сваіх людзей, сваю Бацькаўшчыну і жадаў усім толькі дабрыні, святла і шчасця.

**Янка САЛАМЕВІЧ.**

У свеце

# Раз'яднаны народ – раз'яднаная мова

«Цяпер стала мадэрным слухаць музыку на тэйп-рэкордэры. Рабіць гэта можна нават там, дзе няма электрыкі». Гэта — фраза з прадмовы да збору беларускіх песень, выдадзеных на аўдыёкасеце канадцамі беларускага паходжання. Многія словы тут гучаць нязвыкла — у нашым краі яны не ўжываюцца.

Менавіта падзеленасць нашага народа, існаванне абмежаваных яго асяродкаў у іншых краінах прыводзіць да таго, што сёння беларусы карыстаюцца дзвюма графікамі ды некалькімі граматыкамі. І ўнармаванне нашай мовы — справа яўна не бліжэйшага часу.

Падобныя прыклады падзеленасці моваў у свеце ёсць. Адзін з іх — мова карэйцаў.

Як вынікае з даследаванняў паўднёва-карэйскага Інстытута ўз'яднання, з часу падзелу краіны ў мове жыхароў Паўночнай Карэі з'явіліся тысячы новых слоў, невядомых жыхарам Паўднёвай і наадварот.

Адна з прычын гэтага — непадобнасць дзяржаўнага ладу краін. Словазлучэнні кшталту «сацыялістычнае спаборніцтва» ці «рэвалюцыйная дысцыпліна» на Поўдні не ўжываюцца. Затое там пашыраецца ўжыванне слоў, пазычаных з еўрапейскіх моваў, у першую чаргу — з англійскай, што стала вынікам палітычнай блізасці ўрада Сеула да ЗША. Таму слова «recorder» ці «helicopter» ды іншыя ў карэйскай транскрыпцыі трывала замацаваліся ў мове Паўднёвай Карэі.

У адрозненне ад таго ў Пхеньяне, дзе стаўка робіцца не толькі на ідэі камунізму, але і на нацыянальныя пачуцці, існуе традыцыя стварэння словаў дзеля абазначэння новых паняццяў на падставе здаўна ўжываных. Таму магнітафон там называюць не на амерыканскі лад — рэкордэр, а «гукавы апарат». Той жа самы «хэлікоптэр» стаў «лятаючай машынай з вінтом».

Яшчэ адной падставай да размежавання моваў дзвюх Карэй стала іх стаўленне да мовы кітайскай, якая на працягу многіх стагоддзяў грунтоўна ўплывала на карэйскую. У іерагліфічным карэйскім пісьме ёсць знакі, ужываныя да абазначэння двух розных слоў. У Паўднёвай Карэі дзеля адрознення гэткіх сінонімаў пасля іх тое ж паняцце перадаецца знакам з кітайскай мовы. Напрыклад, пасля сімвала ветру, які выклікае буру, ставіцца кітайскі іерогліф — слова (дарэчы, вядомае і нам) «тайфун». Затое нацыянал-камуністы з Паўночнай Карэі выступаюць супраць забруджвання мовы замежнымі словамі і ў гэтым выпадку замест іерогліфа «тайфун» ужываюць карэйскае тлумачэнне «моцны вецер».

У адрозненне ад нас карэйцы захадаў дзеля ўнармавання сваёй мовы не робяць. Яны перакананыя, што, уз'яднаўшыся, зробіць адзінай сваю мову сам народ — яе носьбіт.

**У.П.**

*Меркаванні*

# Працаваць і верыць

*(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)*

паданых заяў з жаданнем вучыцца на расійскай мове. Іх было ўсяго ТРЫ. (А школа ж самая вялікая ў горадзе.) І якім жа было маё здзіўленне 1 верасня, калі даведаўся, што беларускамоўных класаў у школе няма зусім: большасць настаўнікаў пажадалі перайсці на расійскую мову навучання — з-за ранейшай вывучкі і інерцыі мыслення. А бацькі праявілі абыякавасць.

Кажуць: дзе тонка, там і рвецца. На жаль, тонкае звяно беларусізацыі школы — у самой школе. Мы думалі, што беларусізацыя школы пойдзе сама, і не заўважалі пасіўнасці настаўнікаў беларускай мовы ды актыўнасці настаўнікаў расійскай. У школе — то пушкінскі вечар, то ясенінскі, то на КВЗ высмейваецца пераклад на беларускую мову якой-небудзь вершаванай казкі Пушкіна. А настаўнікі беларускай мовы забываюцца пра свой прадмет, як толькі за імі зачыняюцца дзверы класа. І хто яшчэ змагаецца за мову і імкнецца на ёй размаўляць, дык гэта настаўнікі гісторыі малодшага пакалення.

Мы, нацыянальная інтэлігенцыя, і сапраўды аказаліся далёкімі ад народа. Мы не бачылі рэальнасці, а таму дапусцілі шмат памылак. Вялікай памылкай было тое, што мы друкаваліся толькі ў беларускамоўных газетах. Чытачоў «Звязды», «Свабоды» не трэба агітаваць за беларускую мову. Трэба было адмовіцца ад радыкалізму і хоць бы неяк ускосна, на расійскай мове, але спрыяць развіццю самасвядомасці беларусаў. Трэба было друкавацца ў мясцовай прэсе, якая ў апошні час двухмоўная. Але матэрыялы на нашай, беларускай мове ўсё ж павінны быць самымі цікавымі і вабнымі. Беларускае слова агітавала б само за сябе. Каюся, сам грэшны. Мне прапаноўвалі стаць пазаштатным карэспандэнтам абласной газеты. Але ў гэты ж час яе «палітычнымі аглядальнікамі» сталі лідэры антыбеларускіх партый, таму я ў апошні момант адмовіўся. Каму і што я даказаў? Відаць, толькі пашкодзіў справе.

Я звяртаюся да бацькоў і настаўнікаў. Калі ў вашым горадзе ці вёсцы яшчэ ўдалося захаваць беларускія класы, то зрабіце ўсё, каб яны сталі прэстыжнымі і элітарнымі, каб у іх было цікава вучыцца, каб бацькі расійскамоўных класаў зайздросцілі вам і вашым дзецям. Дзеля гэтага трэба крыху папрацаваць рукамі і шмат галавой. Трэба, каб у гэтых класах было многа мерапрыемстваў, прысвечаных нашай культуры, гісторыі, мове, спартыўных спаборніцтваў таксама. А калі вы яшчэ пачняце разам з дзецьмі хадзіць у вандроўкі па ваколіцах горада, то даволі хутка прымаць у беларускія класы прыйдзецца па конкурсе.

Яшчэ адным слабым месцам у беларускім нацыянальным руху з'яўляецца адсутнасць нацыянальнай буржуазіі, а значыць, і фінансавай падтрымкі беларусізацыі. Трэба ўсталёўваць кантакты з беларускімі прадпрымальнікамі.

Сацыяльнай базай нацыянальнага руху з'яўляюцца не толькі тыя 20 працэнтаў насельніцтва, якія актыўна выказаліся супраць усіх антыбеларускіх прапаноў А.Лукашэнкі, а і тыя 20—25 працэнтаў, якія адмовіліся ўдзельнічаць у рэферэндуме. Яны яшчэ не вызначыліся, але ўжо не вераць у тое, што змена сімволікі, пераход на двухмоўе, «зліццё» з Расіяй могуць палепшыць іх жыццё. Яны ўбачылі, што расійская мова — гэта, дарэчы, мова, у якой на кожнае правіла дадзены дзесятак выключэнняў, і цяжка бывае растлумачыць беларускім дзецям, чаму пры вымаўленні чуецца адно, а пісаць трэба другое. Яны ўбачылі, што ў дзяцей з'явіўся практычна лішні прадмет і гэтае двухмоўе дрэнна адбіваецца на іх псіхічным стане. Яны ўбачылі, што ўрок беларускай мовы ў другім класе толькі адзін на тыдзень, а расійскай — ажно чатыры. Якое ж тут раўнапраўе? А выказаліся менавіта за раўнапраўе!

І, безумоўна, нашай сацыяльнай базай з'яўляюцца сённяшнія школьнікі. Абсалютная іх большасць не падтрымліваюць «выбар» беларускіх ваенных пенсіянераў. Мяне нават здзіўляе, калі бачу парасткі нацыянальнай годнасці ў дзяцей, настаўнікі каторых не з'яўляюцца прыхільнікамі беларускай нацыянальнай ідэі, а бацькі праяўляюць поўную абыякавасць да яе. Бел-чырвона-белы сцяг яны называюць «наш сцяг». І чым больш стараюцца працаўнікі ўсяго беларускага, тым больш яны робяць дзеля выхавання нацыянальнай годнасці ў дзяцей-беларусаў. Як ні дзіўна, але рэферэндум, які быў задуманы з мэтай загубіць усё беларускае, абярнуўся штуршком для фарміравання нацыянальнай самасвядомасці ў малодшага пакалення нашай краіны.

Трэба абавязкова аддзяліць палітыку ад культуры. Канешне, вельмі заманліва пры дапамозе палітычнай барацьбы хутка змяніць да лепшага сітуацыю ў нацыянальнай культуры. Але гэта ідэалізм. Злучэнне пытанняў культуры з палітыкай ужо прынесла шкоду і палітыцы, і культуры. Уяўляеце, адна настаўніца ўсур'ёз мне заявіла: «Я боюсь, что мне позвонят в дверь и спросят, как будет на белорусском языке какое-нибудь слово, и если я не буду знать...» А імя «Зянон Пазьняк» для яе страшней д'ябла. Для яе Пазьняк і мова — «близнецы-братья». Мне здаецца, што тым, хто вядзе палітычную барацьбу за ўладу, трэба адысці ад культуралагічнай працы.

І калі мяне вельмі хвалюе стан нашай мовы пасля рэферэндуму, таму што нават тры згубленыя гады адгукнуцца нам дзесяцігоддзямі культурных страт, то ў адносінах да сімволікі я зусім не хвалююся. Эканамічна актыўнае (на жаль, не палітычна) насельніцтва нашай краіны не ўспрыняло прэзідэнцкую сімволіку. Яна лунае толькі над «вертыкальнымі» палацамі ды адзін раз я пабачыў яе на цеплавозе. Затое над стадыёнамі, на машынах, у сшытках вучняў, на самалёціках, якія робяць з паперы дзеці, — бел-чырвона-белы сцяг.

Словам, трэба адкінуць песімістычныя настроі і выпраўляць памылкі.

**Ю.КЛІНЦОЎ, сябра Гомельскай абласной Рады ТБМ імя Ф.Скарыны.**

# ВЕРУЕМ

*Slavia Orthodoxia*

## Феномен праваслаўнага адраджэння

...Мы неяк прызвычаіліся атаясамліваць Рэнесанс з Італіяй, напэўна, ад няведання, занядбання гісторыі, культуры славян, бо сама ідэя Адраджэння зарадзілася ў X—XII стагоддзях у Візантыі (і значна раней за Італію), як рэстаўрацыя традыцыйных мадэляў духоўнай і моўнай чысціні.

Пачатак і росквіт гэтай выдатнай рэлігійна-культурнай з'явы, асабліва плённай на тэрыторыі Беларусі і іншых праваслаўных землях Вялікага Княства Літоўскага, прыпадае на эпоху I і II паўднёваславянскіх уплываў.

Напрыклад, першы паўднёваславянскі ўплыў, ля вытокаў якога стаялі св. салунскія браты Кірыла і Мяфодзій, іх вучні Клімент Ахрыдскі, Навум, Чарнарызец Храбр, Іаан Экзарх абумовілі залаты век культуры Першага (часоў цара Семяона) і Другога (цара Асена II) Балгарскіх царстваў. І не толькі ў Балгарыі, а і сярод іншых славян.

Пачатковы перыяд гэтай старажытнай пераемнасці мовы салунскіх першанастаўнікаў — часы св. Ефрасінні Полацкай, якая, паводле звестак, атрымлівала святыя кнігі (у балгарскай рэдакцыі Кірылы і Мяфодзія) праз родную цётку візантыйскую імператрыцу для перапісвання ў сваім знакамітым скрыпторыі непасрэдна з Канстанцінопаля. Не можа не здзіўляць сапраўды падзвіжніцкая дзейнасць Ефрасінні Полацкай па хрысціянізацыі краю, распаўсюджванні манаскіх цэнтраў з іх добраналаджанымі скрыпторыямі па перапісванні праваслаўных кніг.

Справа Ефрасінні Полацкай па хрысціянізацыі краю знайшла свой плённы працяг на заходніх землях ВКЛ у самым факце заснавання Лаўрышаўскага манастыра, падзвіжніцкай дзейнасці князя Войшалака.

Другі паўднёваславянскі ўплыў, эпіцэнтрам якога былі не толькі, як прынята лічыць, Маскоўскае княства, але, магчыма, яшчэ ў большай меры, землі Вялікага Княства Літоўскага, абумоўлены складанымі зрухамі ў праваслаўным свеце, падзеннем Балгарыі, Сербіі, Канстанцінопаля пад націскам ваяўнічай Асманскай імперыі, канчатковым вынікам чаго з'явілася вядомае перамяшчэнне рэлігійных цэнтраў з Візантыі да сваіх усходніх пераемнікаў — Кіеўскай і Маскоўскай мітраполіі.

* * *

Разуменне хрысціянскага ўсходняга ці праваслаўнага візантыйскага Адраджэння, як пачатку, папярэдніцы заходнееўрапейскага Рэнесанса ў беларускай навуцы толькі пашыраецца, у той час як даследаванні ў галіне візанталогіі і славістыкі разглядаюць увесь хрысціянскі свет часоў ісіхазму, дыспутаў пра Фаворскае святло, як эпоху Адраджэнскую, эпоху гуманізму.

Па сваіх вытоках і характары рэнесансныя з'явы ў розных краінах і ў розныя часы маюць свае асаблівасці, але зыходная аснова іх — цікавасць да чалавечай асобы. XIV стагоддзе, у большай меры, чым якое іншае, можна назваць векам Адраджэння ў Заходняй Еўропе і Візантыі, у славянскіх краінах і на арабскім Усходзе. Паўсюдна пасля паслаблення сацыяльна-дзяржаўных структур, веку чорнай чумы, што знішчыла трэць насельніцтва Еўропы, рэзка ўздымаецца значэнне чалавечага фактару. Таму XIV стагоддзе такое антрапацэнтрычнае. У строгім сэнсе яго прадстаўнікоў нельга дзяліць на гуманістаў і негуманістаў. Тады ўсе былі гуманістамі: і тыя, хто сходзіў у пустынь, і тыя, хто паміж філасофскімі развагамі аб прыгажосці і дабрачыннасці, гібелі ў грахах і ліхвярстве. Нават больш — славянскімі вучонымі апошніх год аспрэчваецца правамернасць распаўсюджання самога тэрміна АДРАДЖЭННЕ на заходні свет, які праз свой Рэнесанс адышоў ад хрысціянскіх каштоўнасцяў у язычніцтва, бездань ерасяў і граху, адмовіўся ад трансцэндэнтнай сінергіі (узаемадзеяння) Боскай ласкі і свабоднай волі чалавека побач з дадатнымі сутыкнуўся з пэўнымі крызіснымі момантамі. У расійскай навуцы вызначыўся перагляд канцэпцыі Д.С.Ліхачова, які ў адносінах да ўсходнеславянскіх умоў уводзіў рабочы тэрмін «Предвозрождение». У наяўнасці былі ўсе адзнакі духоўнага, культурнага, нацыянальнага, дзяржаўнага ўздыму, нездарма ў гэты час Русь пазбаўляецца ярма татар, тады як Еўропа адступае перад туркамі. Хочацца згадаць, што аб'яднанымі сіламі Рэчы Паспалітай, Вялікага Княства Літоўскага і Чэшска-Венгерскага каралеўства (1490—1515) стрымліваўся асманскі наступ на Цэнтральную Еўропу. На чале гэтых сіл стаяў малады вялікі князь ВКЛ і польскі кароль Уладзіслаў Ягелончык. (У той час дынастыі Ягелонаў паводле адпаведнай дыпламатычнай дамовы аддавалася перавага нават перад Габсбургамі.)

...У апошнія гады стала агульнапрынятым у еўрапейскай навуцы разглядаць два бакі ў Рэнесансе: духоўнае Адраджэнне, якое заўсёды папярэднічае гэтаму феномену, і яго палітыка-культурныя праявы з усімі выдаткамі гэтай з'явы.

І калі мы яшчэ ў сябе даволі сціпла гаворым аб гэтых фактах, то на Захадзе ўжо ідзе перагляд тэрміна Рэнесанс у бок больш духоўнага яго зместу. У заходнееўрапейскай і амерыканскай тэалогіі і медыявістыцы, асабліва пасля прац Г.Гаскінса «Адраджэнне XII ст.» (1927г.), Эрвіна Панофскага «Рэнесанс і Адраджэнне ў заходнім мастацтве» (1960г.), ужо агульнапрынята гаварыць аб духоўным Адраджэнні ўжо ў эпоху Готыкі (XI—XII стст.).

Як адзначае Р.Сазерн у сваёй кнізе «Станаўленне Сярэднявечча», у другой палове XII ст. адчуваецца подых новых павеваў, пачынаецца ўсведамленне новых гістарычных перспектыў у форме «вежества» і «учёности», рух ішоў з Грэцыі (Візантыі) да Рыма, ад Рыма, пасля вядомага перапынку, да Францыі, па тым часе фарпоста Заходняга хрысціянскага свету. Па сведчанні англійскага прафесара гісторыі Крыстафера Брука («Адраджэнне XII ст.»), зварот да сапраўдных, «истинных» уяўленняў пра Рэнесанс пачалося ў Еўропе ў XVIII ст. З часам, асабліва ў XIX ст.,назіраецца карпатлівае даследаванне вытокаў Рэнесанса, складваецца духоўны асяродак, які здольны ацаніць усе вартасці гатычнай культуры, славутай папярэдніцы Рэнесанса, пачынаецца вывучэнне традыцыйнай агульнахрысціянскай абраднасці і патрыстыкі візантыйскай пары і працэсаў духоўнага Адраджэння славянскіх, праваслаўных народаў.

**Алена ЯСКЕВІЧ,**
**кандыдат філалагічных навук.**

*Запаведзь*

*В.БАРСКІ*

## Храм

*(Працяг.)*

Ці не даводзілася, паважаны суайчыннік, выпадкова неяк пабачыць ужо рэальны храм? (Тут возьмем агульна, не размяжоўваючы асобныя канфесіі.) І не дзе-небудзь «за гарамі-лясамі», а побач — прыблізна два дзесяткі кіламетраў ад вялікага горада.

Звычайная сялянская хата, хіба што крыху большых памераў, пад двухсхільнай страхой, толькі з адпаведнымі атрыбутамі ды сімволікай: крыжам над будынкам і ў вокнах — каляровыя шыбкі ў форме крыжа; званіцай побач — трыногай, зваранай з стандартных сталёвых трубаў, а на ёй — традыцыйны званочык з могільнікавай каплічкі...

Вось і падставы для роздуму... Ваяўнічы дзяржаўны атэізм намаганнямі кан'юнктуршчыкаў і платных лектараў-агітатараў выбраўвыкапаў так-такі унікальны дол, які змясціў у сабе тысячы бажніц — самы ХРАМ.

Што ж, агульнавядома: першым хрысціянам у Рымскай імперыі даводзілася збірацца на малітвы ў катакомбах, пад зямлёй, у муках гінуць на арэнах цыркаў.

Ці ж не за гэта — у першую чаргу зноў жа за сваю веру — на абшарах чарговых імперыяў мільёнамі гінулі прадстаўнікі розных рэлігій і канфесій ды атэісты: за калючым дротам ГУЛАГа, фашысцкіх лагераў смерці?

Гледзячы на згаданы храм, уяўляеш, што людзі, якія стараліся па меры сваіх магчымасцяў стварыць рэальны прытулак сваёй, неабходнай ім веры, рабілі гэта без падказкі ці прымусу — з волі сэрца. І, верагодна, выслухоўваючы і кпіны, і хамскі здзек, а то і пагрозы «добраться, вывести на чистую воду». Але людзі рабілі сваё, не саступаючы! Яны ж кіраваліся ўласным разуменнем — патрэбай душы.

Праз якісь час, восеньскім ціхім і ясным днём давялося пабачыць, як вакол таго сапраўднага храма, вонкава так спрошчанага гістарычнымі абставінамі, спорна ўзнімаліся новыя, няхай з сілікатнай цэглы і блокаў пенабетону, сцены. Спраўна йшла, ладзілася праца ў брыгады пераважна маладых, дужых дзецюкоў: «Памагай Бог!» — «Дзякуй Богу!» Без гарэлкі пры працы ды ганебна бяздумнай лаянкі роўна расла ўверх сучасная муроўка...

Агульная малітва ў звычайнай хаце ці кватэры... Склад хімічных, атрутных рэчываў у колішняй бажніцы... Ад нармальнай асобы логіка патрабуе ўсё ставіць адпаведна сутнасці, прызначэнню. Бальшыня нашага грамадства, між тым, бяздумна і маўкліва мірылася з такой абсурднасцю. Да пары, аднак...

З чым да Бога і да людзей?

Дык як, на чым будзем выхоўваць дзетак, памятаючы, што чалавек — асоба, яго агульная культура фармуецца з самых першых гадоў жыцця? Ды і сябе саміх, ужо даўно-даўно сталых узростам? Тут, хутчэй за ўсё, без кампрамісаў не абысціся.

Ці сэнс, заклеіўшы жывыя вочы прыемным табе бальзамам святасці менавіта — і выключна! — тваёй ідэалогіі, абеируч трымацца за выгадныя выратавальныя дагматы? Ці не разумней спакойным зрокам унікліва ўглядацца ў акаляючае, яшчэ раз цярпліва выдзяляць станоўчыя элементы супрацьлеглых светапоглядаў? Магчыма, што, узважыўшы асноўныя маральныя ўстаноўкі як матэрыялістаў, так і ідэалістаў, прыйдзем, хутчэй за ўсё, да высновы, што тут чалавецтва пакуль што не выпрацавала нічога лепшага за хрысціянскія дзесяць запаведзяў.



Аднаўляецца Груздаўская, былая уніяцкая, царква (Маладзечанскі раён).

**Фота С.ЛОЙКІ.**

Тых самых, якія ў свой час атрымаў (прымем за аснову) Майсей на вяршыні Сіная, якія затым выбіваліся на камяні і бронзе — на вякі, ды і без таго пратрывалі, прайшлі праз стагоддзі.

Выхаваныя, аднак, у бязвер'і, не прымем іх адразу, агульна, цалкам, тым больш, з усімі шматлікімі храмавымі канонамі і ўмоўнасцямі. Нават падзяляючы іх цалкам, пры самым шчырым жаданні ўзброіцца адразу ўсімі дзесяццю не зможам: зашмат, не адолець! Пачнём хаця б з адной, восьмай: «Не сведчы ілжыва на бліжняга твайго» — не хлусі!

Не імкніся дзеля «вышэйшых мэтаў» у запісныя дэмагогі, у добраахвотныя стандартныя стукачы, тым больш, калі чакаеш пры гэтым зручнага моманту атрымаць ужо канкрэтныя юдавы срэбнікі «за работу». Ды хаця б не апускайся да звыклай, побытавай брахні, у тым ліку і да закамуфляванай: не дагаварыць, спецыяльна не заўважыць, — зноў жа, схлусіць...

*(Працяг будзе.)*

Беларуская лацінка

# Патрэбная перспектыва

### I. Да гісторыі пытання

Ідэя пісаць па-беларуску лацінкаю не новая. Яе выкарыстоўвалі В.Дунін-Марцінкевіч, Ф.Багушэвіч, К.Каліноўскі. «Наша ніва» выдавалася спачатку ў двух варыянтах: кірылічным і лацінічным. На жаль, беларускія адраджэнцы пачатку XX стагоддзя не змаглі пайсці далей простага лацінавання польскага лацінічнага пісьма. Даступны лацінічны беларускі алфавіт не быў выпрацаваны. Прынялі кірылічную графіку. Так несвядома была закладзена яшчэ адна асноба нашай культурнай ізаляцыі ад Еўропы і свету.

Другім важным этапам нашай далейшай ізаляцыі ад Еўропы і свету была рэформа правапісу канца 20-х — пачатку 30-х гг. Такім чынам, мова дзесяцімільённага народа аказалася на мяжы знікнення.

### II. Лацінка сёння. Тэрытарыяльнае распаўсюджанне і перспектывы

З шасці найбольш вядомых моў свету (мовы ААН) тры мовы лацінаграфічныя (англійская, французская і іспанская). Самы вялікі, відаць, англійскамоўны свет. Іспанская мова, акрамя Іспаніі, распаўсюджана ў Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыцы, за выключэннем Бразіліі, дзе насельніцтва размаўляе па-партугальску, а таксама ў некаторых іншых краінах.

Французская мова вядома не толькі ў Францыі, але і ў шэрагу краін Афрыкі, Азіі і Акіяніі, а таксама Карыбскага басейна.

Лацінскае пісьмо прынята амаль ва ўсіх мовах Еўропы, акрамя грэцкай, сербахарвацкай (сербскі варыянт), македонскай і балгарскай.

Лацінскае пісьмо ў сваю чаргу распаўсюджана па-за межамі Еўропы разам з нямецкай, італьянскай, партугальскай, галандскай мовамі.

Больш таго, найбольш адукаваная частка насельніцтва арабскіх краін, Японіі, Карэі, Кітая ды шэрагу краін, якія карыстаюцца іншымі графічнымі сістэмамі, ведае лацінскую графіку, бо, як правіла, валодае адной з лацінаграфічных еўрапейскіх моў.

У свеце назіраецца яшчэ адна цікавая тэндэнцыя — пераход многіх моў з іншых графічных сістэм на лацінскую графіку. Так, у 1930 годзе ў Турэччыне быў распрацаваны і ўведзены ва ўжытак 29-літарны турэцкі алфавіт на аснове лацінскага, а ў 1960 годзе ў Румыніі кірылічны алфавіт быў заменены лацінічным. У 1990 годзе ў час нацыянальнага Адраджэння лацінка была прынята і ў Малдове.

Вядома, што ў 20-я гады ў былым Савецкім Саюзе на аснове лацінскага алфавіту былі распрацаваны нацыянальныя алфавіты некаторых цюркамоўных і ўраламоўных народаў, якія дагэтуль не ведалі пісьмовасці. Затым, як правіла, у канцы 20-х — пачатку 30-х гг. яны былі зменены на кірылічныя, вядома, не без націску цэнтра. У наш час зноў назіраецца тэндэнцыя да пераходу на лацінку (Азербайджан у 1990 г. і іншыя).

У літаратуры апісаны праекты пераходу кітайскай мовы, а таксама моў некаторых этнасаў Паўднёва-Усходняй Азіі на лацінскую графіку. Некаторыя вядомыя даследнікі пісьма зазначаюць, што калі ў будучым чалавецтва будзе карыстацца адзінай сістэмай, то альтэрнатывы лацінцы тут не будзе. Лацінскі алфавіт з старажытнага Рыма разам з ужо мёртвай лацінскай мовай пранік у мовы амаль усіх народаў Еўропы, а затым стаў вядомым на ўсіх кантынентах.

### III. Кірыліца ці лацінка? Выбар зроблены

Такім чынам, беларускія адраджэнцы ў пачатку XX стагоддзя не звярнулі вялікай увагі на будучую беларускую графіку і беларускі алфавіт. Вядома, што свядомыя праваслаўныя беларусы былі схільны карыстацца кірыліцай, а беларусы-каталікі — лацінскай. Гэта іх псіхалагічна раздзяляла на два лагеры: беларусаў-каталікоў было прыкладна ў 3 разы менш, то выбар быў зроблены на карысць кірыліцы. Гэта тлумачылася і фактарам беларускай традыцыі: на кірыліцы былі напісаны выдатныя помнікі беларускага пісьменства. Тады не было і не магло быць глыбокага падыходу да гэтага пытання і глыбокай яго распрацоўкі. Ды й на першы погляд кірыліца больш прыстасавана да напісання беларускіх гукаў. Гукі (ш), (ч) і (ж) у кірыліцы абазначаюць асобнымі літарамі без дыякрытычных знакаў. Лацінкаю гэтыя гукі можна запісваць або з дапамогаю дзвюх літар, або з дапамогай надрадковага дыякрытычнага знака.

Больш таго, кірылічная літара і абазначае гук (і) і гукі (j) + (і), напрыклад, пісаў, сям'і, а літары е, ё, ю, я абазначаюць як мяккасць зычных перад галоснымі, так і спалучэнне гукаў. У лацінцы такія універсальныя літары е, ё, ю, я адсутнічаюць. Адсюль зразумела, што пры напісанні аднаго й таго ж тэксту кірыліцай і лацінкаю (польскі варыянт) колькасць літар у лацінаграфічным тэксце будзе большай. Напрыклад, прапаную параўнаць адзін і той жа тэкст верша, напісаны кірыліцай і лацінкай.

| Віктар Ярац | Viktar Jarac |
|---|---|
| **Памяці Анатоля Вялюгіна** | **Pamiaci Anatola Vialuhina** |
| Там, дзе ходзіць вецер каля вёскі,<br>бы пастух, што пагубляў цялят,<br>на бярозах стынуць адгалоскі<br>і салодкіх дзён, і горкіх страт.<br>Зразумеў сягоння — хоць і позна —<br>на ствалах палоскі чарнаты<br>з белымі ў сяброўстве, нібы повязь<br>галасоў зямных і нематы. | Tam, dzie chodzić viecier kala vioski,<br>by pastuch, što pahubiaŭ cialat,<br>na biarozach stynuć adhaloski<br>i salodkich dzion i horkich strat.<br>Zrazumieŭ siahonnia — choć i pozna —<br>na stvalach paloski čarnaty<br>z bielymi ŭ siabroŭstvie, niby poviaź<br>halasoŭ ziamnych i niematy. |

Бачна, што ўжо ў першым радку верша ў кірылічным тэксце 29 знакаў, а ў лацінічным 33. Тлумачыцца гэта тым, што ў беларускіх тэкстах вельмі часта сустракаюцца мяккія зычныя перад галоснымі ў сярэдзіне слова і радзей мяккія зычныя перад зычнымі ў сярэдзіне слоў і мяккія зычныя на канцы слоў.

Усё гэта прывяло да выбару кірыліцы. Толькі ці ўсведамлялі адраджэнцы пачатку XX стагоддзя негатыўных наступстваў свайго выбару? Не, бо не маглі аб'ектыўна прадбачыць іх!

### IV. Новая беларуская лацінка. Ці гэта надзённа?

Сёння беларуская мова і культура аказаліся на мяжы знікнення. Прычыны ўсім вядомыя. Адна з іх — культурная ізаляцыя Беларусі ад Еўропы і свету.

Няма сумнення, што беларуская культура ў ВКЛ была часткаю агульнаеўрапейскай. За апошнія 200 год беларусы былі штучна ізаляваны ад Еўропы. І сёння, трэба прызнаць, што такая моўная, культурная, эканамічная і нават яшчэ ідэалагічная ізаляванасць пераважнай большасці насельніцтва Беларусі ад Еўропы і свету не толькі захоўваецца, але яшчэ і ўзмацняецца. Хочам мы — ці не, але мусім прызнаць, што адна з прычын нашай ізаляцыі — кірылічнае пісьмо.

Мне могуць запярэчыць, што кірыліцай карыстаюцца некаторыя народы Еўропы і не адчуваюць сябе ізаляванымі, што японцы, карэйцы ды кітайцы не карыстаюцца лацінскім пісьмом, але развіваюцца вельмі інтэнсіўна і, у першую чаргу, маюць высокаразвітую гаспадарку.

Безумоўна, праблема графікі — не самая галоўная для адраджэння беларускасці і Беларусі, але Беларусь — не Балгарыя ці Грэцыя. Беларусы сёння — амаль што цалкам асіміляваны этнас, таму рэформа графікі нам патрэбна для самаідэнтыфікацыі і для пераадолення культурнай, псіхалагічнай і ідэалагічнай ізаляванасці ад Еўропы. Сумна, але факт, што на псіхалагічным і ідэалагічным узроўні большасць нашага насельніцтва ўспрымае Захад як нешта абсалютна чужое і нават варожае. Мы ж павінны ўспрымаць Захад і Еўропу як нешта сваё, роднае, тое, ад чаго нас доўга адлучалі. Мы — нацыя з глыбокімі еўрапейскімі каранямі і ў Еўропе нашае нацыянальнае і дзяржаўнае выратаванне, у гэтым наша выжыванне. Лацінка будзе стымуляваць паскарэнне працэсу самавызначэння беларусаў і паскорыць пераадоленне ізаляванасці, а таксама паспрыяе змене моўна-культурнай сітуацыі ў Беларусі. Лацінка ў сукупнасці з напрацаванымі сучаснымі формамі масавай беларускай культуры паспрыяе масаваму звароту маладых людзей да роднай мовы і культуры.

**Віталь КУПЛЕВІЧ.**

Меркаванні

# Я па нацыянальнасці — беларусін!

Не даспадобы гэта прызнаваць, але продкі кожнага пакалення былі разумнейшыя ад сваіх наступнікаў. Таму так і выбівалі нашых папярэднікаў: за падручнік на роднай мове, за слова ў абарону нацыянальнай годнасці... Працэс беларусізацыі 20-30-х гадоў мог паслужыць нам тым канчатковым правільным этапам, кансалідацыяй у нацыю, але працэс быў скіраваны ў бок Курапатаў. І сёння мы маем у сваёй душы тое, што маем.

А замест нейкага месіва вызначаецца ў першую чаргу па этыкетцы, па тытуле. Які ж назоў мае субстанцыя, якая так і не даспела да паўнакроўнай нацыі, самасвядомага народа? Былі мы крывічамі ў Крывіі (Крыўі), былі ліцвінамі, беларусцамі. Сваю зямлю называлі Вялікім Княствам, Рэччу Паспалітай, а яшчэ Вялікалітвою і гэтак далей. Нядаўна зноў атрымаўся кактэйль з БССР і РБ. Дзе тут да самавызначэння, да саманазвы, да такіх «тонкасцяў»: што называць рускім, а што называць расійскім. Прадаўжаем самагубства. А калі няма ідэнтычнасці, то і застанёмся для ўсіх суседзяў, для ўсяго планетнага супольства нейкімі кузуркамі, мурашамі. Нас ужо сёння «ўпрытык не бачаць» многія палітыканы з Усходу, Захаду, Новага свету... Мы — чарговы бар'ер, які лёгка пераскочыць, хапаючы залатую ахвяру бізнесу, а пры патрэбе падняць лапу ганчака, каб пакрапіць нашыя памежныя слупы.

Мы не маем імя, якое б радніла нас з нашай гісторыяй, несла водгукі далёкай родавай эпохі. Атрымалася як з градацыяй імёнаў людзей: матчын пестунок быў не Антонам — Анцікам, дзецюком займеў імя Антук, ажаніўшыся — Антось, а ў дзядовым чыне — Антух. Цікава, на якой ступені «выросту» знаходзімся мы са сваёй дзяржавай? Параімся ў мудрых.

Яніс Райніс у прамове на сейме па беларускім пытанні гаварыў 27 чэрвеня 1922 года так (прыблізны пераклад з латышскай мовы): «У гісторыі беларусы вядомы як «крывічы», пра гэта сведчыць хроніка. Гэтыя беларусы хочуць рускае найменне сабе ўзурпіраваць, бо хочуць, каб беларусы называліся рускімі, а рускія хай завуцца русакамі. Гэта пра тое, што яны і ёсць тыя самыя даўнія «крывічы». У гэтых крывічоў, пазнейшых беларусаў, вялікая гісторыя... Але ж гісторыю трэба ведаць, як і тое, што ў беларускую гісторыю ўваходзіць таксама і літоўская гісторыя.... Літоўская гісторыя ўсім знаёма, яна знаёма і пану Кемпу (апаненту Я.Райніса — С.П.); я думаю, ён ведае, як заснавалася Літоўска-Руская, гэта значыць Літоўска-Беларуская дзяржава» (гл. «Скарбы сусветнай літаратуры». «Ян Райніс. Выбранае». Менск, «Мастацкая літаратура», 1993 г.).

Райніс і яго сучаснікі ведалі, з якімі землямі мяжуе Латвійская дзяржава і як называць сваіх суседзяў. Здаўна найменне «крывічы» ў Латвіі перакладалася словам «крievы», але пазней гэты назоў перайшоў на расіян: крэвамі сталі называць рускіх, беларусаў — балткрэвамі. Прадстаўнік новага пакалення латышоў аўтар кнігі «По Латгалии» («Искусство», 1988 г.) Л.Трайван быў да смешнага прамалінейны. Вось цытата ў арыгінале: «Ранние культурные контакты Латгалии связаны прежде всего с соседними русскими землями. Население, жившее в долине Западной Двины, платило дань полоцкому князю. Латгальское княжество Герцике (нынешняя Ерсика) приняло православие от русского народа. Первые слова, связанные с христианством — «церковь», «колокол», «святой», «пост» и другие, пришли из России». Такая вось «навука»! У Л.Тайвана ставіцца знак роўнасці паміж паняццямі «руская зямля», «полацкі князь», «Расія». Абсурд, разлічаны на атупеласць нашчадкаў Райніса і Купалы. «Церковь» у латышскую мову не магла прыйсці з Расіі. Па-латышску «базніца» пераклікаецца з крывіцкай бажніцай. «Колокол» насампраўдзе гучыць як «званс». «Пост» — гэта гавеніс-гавенне, «праздник» — свэткі-святкі, «книга» — «грамата», «гостиница» — «весніца» (згадаем веснічкі-весніцы)...

Вось да якога нахабнага невуцтва (палітыканства ў навуцы) даводзіць наўмысна няправільны выбар слова. Мы былі русінамі, людзьмі «рускае веры» (перакладаць трэба на расійскую з адным «с»). І выдаваў палачанін Ф.Скарына «Біблію рускую» — сваю кнігу, дзеля свайго люду паспалітага, з агляДкай на тое, што яе будуць чытаць і суседзі.

І колькі мы яшчэ будзем хамелеончыкамі, будзем мімікрыцца, страчваючы сваё непаўторнае аблічча, а значыць, і цэлыя пласты гісторыі? Расіяне не пакрыўдзяцца на разумныя довады, на паэтычныя вобразы, таксама як і сённяшнія летувісы, з якімі мы дзелімся спадчынай. У вершы я магу прыклікаць ліцвіна і гуда, крывіча і русіна, але па нацыянальнасці, па метрычных дакументах я павінен называцца беларусінам, каб як мага болей пакінуць за сабой, у сябе і перад сабой гістарычнага змесціва. Беларусін — самае справядлівае, самае магчымае сёння маё найменне. І я, беларусін, клянуся на «Бібліі рускай» «рускімі словамі славянскай мовы» быць верным і чэсным перад сваёй Бацькаўшчынай — «і асабліва з тае прычыны, што мяне літасцівы Бог з гэтае мовы на свет пусціў...» Хацелася б, яшчэ раз прыгадаючы запаветы нашага настаўніка-першадрукара, заклікаць усіх насельнікаў дзяржавы мацаваць еднасць і лучнасць, «каб мы... усялякага труда і скарбаў для паспалітага дабра і для айчыны свае не шкадавалі..., бо ад прыраджэння звяры, што ходзяць у пустыні, знаюць ямы свае; птушкі, што лётаюць у паветры, ведаюць гнёзды свае; рыбы, што плаваюць па моры і ў рэках, чуюць віры свае; пчолы і тым падобныя бароняць вулляў сваіх, — таксама ж і людзі, дзе нарадзіліся і ўскормлены суць па Бозе, да той мясціны вялікую любоў маюць».

**Сяргей ПАНІЗЬНІК.**

Ствараем энцыклапедыю «Новай зямлі»

**Валянціна ВЫХОТА**

# Коласавы зернеткі

*І скуль набраліся яны?*
*І ўсе важнецкія паны,*
*Зірнеш і ўнікнеш: прад табою*
*Мо князь з графіняю якою!*
*Так далікатна спацыруюць*

**Спацыраваць.** Ням. spazieren узыходзіць да лац. spatium 'прастора, працяжнасць', італ. spaziare запазычана ў XIII ст. у с.-в.-ням. spacziren. З тым жа значэннем і лац. spatiāri.

*— Бяры, Антось! — Я намакаўся,*
*Бяры, брат, ты: ты больш цягаўся, —*
*І спрэчку тым яны канчалі,*
*Што гэту скварку разразалі.*

**Спрэчка.** Ням. Gespräch n 'гутарка, размова' ад sprechen 'гаварыць, размаўляць, гутарыць', с.-в.-ням. sprēchen, ст.-в.ням. sprēhhan, ст.-інд. spūrjati 'адгукаецца'. Узыходзіць да і.-е. *(s)ph/er(e)s- 'зваць, адгукацца, адбівацца' (пра гук).

*Былі тут розныя будынкі:*
*Гуменцы, гумны і адрынкі,*
*Хлявы і стайні, і аборы,*
*Дабра, набытку былі горы.*

**Стайня.** Ням. Stall m, с.-в.-ням., ст.-в.-ням. stal (II) m, n з агульным першасным значэннем 'месца стаянкі'. Ёсць роднасныя ў іншых мовах. Узыходзіць да і.-е. кораня *st(h)el- 'ставіць' (пашыранае ад і.-е. *sthā 'стаяць').

*Так прагну я ступіць на ролі*
*Сваіх палеткаў, ніў благенькіх,*
*Дарог і сцежачак крывенькіх,*
*Што гожа ўюцца спомеж жыта*
*Або срэдзь лесу самавіта.*

**Сцежка.** Ням. Steg m с.-в.ням. stēc, ст.-в.-ням. stēg. Герм. корань *stig адпавядае і.-е. кораню *stigh 'крочыць, ступаць, ісці'. Ст.-слав. stignati 'даганяць', stīdza, рас. *стезя* 'шлях, дарога'.

*Алесь і Костусь выпадкова*
*Гукнулі разам ў адно слова.*
*— Вот малайцы!.. а вы што, цеслі?*
*Гулу вам меншыя паднеслі!*
*Адзін — бальшун, другі — дарэктар*
*І тлумачэльнік разам, лектар...*

**Тлумачыць.** Ням. (ver)dolmetschen утворана ад Dolmetsch m у XV ст. да Х.н. сустракаецца talami 'тлумач; заступнік; тлумачальнік'. Адтуль трапіла ў паўн.-турэцкую мову tilmač tilmadž 'пасрэднік, які дае магчымасць разумецца людзям, якія гавораць на розных мовах'. З турэцкай трапіла ў с.-в.-ням. і з'явілася тут у XIII ст. як tolmetsche.

*Жыў у фальварку Язэп панам,*
*І гаспадарку вёў умела.*

**Фальварак.** Ням. Vorwerk n 'двор, які належыць да большага маёнтка'. Складанае слова: прыстаўка Vor і назоўнік Werk n. Гісторыя слова ў артыкуле пра варштат — «Наша слова» № 6 (218).

*Міхал у гэты момант самы*
*Прыходзіць з лесу, йдзе да пана.*
*— Чаму на флянсах уваспана*
*Сляды быдлячыя? — пытае.*

**Флянс.** Ням Pflanze f 'расліна', с.-в.-ням. pflanze, ст.-в.-ням. pflanza рана запазычана з лац. planta — першапачатковае значэнне 'прызначаная для пасадкі раслінка, каліва'. Лац. plantare 'абтаптаць зямлю вакол саджанца', лац. planta 'падэшва нагі'. Прыгадайце: *куры сплянтавалі ўсе грады.*

*Рыгор-хурман хадзіў без дзела.*

**Фура. Фурманка. Фурман.** Ням. Fuhre f, с.-в.-ням. vuore, ст.-в.-ням. fuora утворана ад дзеяслова fahren 'ехаць'. Фурманка — ад Fuhrmann m 'фурман'.

Гравюра **М.Купавы.**

# Забыты часопіс


РОДНАЯ МОВА

Зьмест

Кожная рэдакцыйная пошта — радасць для ўсіх супрацоўнікаў. Прыемна атрымаць і ліст, адрасаваны асабіста. Вось і нядаўна, калі пабачыў у стосе лістоў бандэроль, прысланую мне, вельмі ўзрадаваўся: знаёмы почырк і зваротны адрас — з Валеўкі — падказвалі, што яе прыслаў Уладзімір Урбановіч, вядомы настаўнік, краязнаўца, аўтар кніг «Па дарагіх мясцінах» (1964) і «Шляхамі паэтаў і герояў» (1970) — з ім маю гонар быць знаёмым.

Гэтым разам спадар Уладзімір зрабіў нам цудоўны перадкалядны падарунак: у бандэролі былі дзве кніжкі часопіса «Родная мова» № 5 за 1930 год і № 6 за 1931 год ды частка нейкага іншага — артыкул Яна Станкевіча «Гісторыя беларускага языка», а таксама ліст, у якім спадар Уладзімір напісаў: «Часопіс пачаў выдавацца ў 1930 годзе і існаваў да 1938, а можа нават да 1939 года. Аб гэтым гавораць спасылкі Янкі Станкевіча на ст. 46 «Гісторыі беларус.кага языка» (мабыць гэта апошні сшытак з першага нумара за 1938 ці 1939 год) на віленскія выданні 1936- 37 гадоў. Нумарацыя старонак (33—48) захаванай часткі сведчыць аб тым, што яны былі надрукаваны ў 1938 або 1939 годзе».

Гэта значнае ўдакладненне артыкула пра «Родную мову», надрукаванага ў энцыклапедыі «Беларуская мова».

Падтрымаем прапанову сп. Урбановіча: можа хто-небудзь ведае пра часопіс больш за нас — хай раскажа.

**Здзіслаў СІЦЬКА.**

# Цуд на вуліцы Філімонава



На гэтай вуліцы ў Менску майстры народнай творчасці маюць сваю краму «Берагіня». Яна больш падобная на музей ці выставу. На стэндах, у вітрынах — гліняны і драўляны посуд, куфэркі, каробкі, ручнікі, лялькі, выцінанкі, традыцыйныя беларускія «павукі», а таксама разбёныя з дрэва, плеценыя з саломы, лазы, карэнняў, нітак аздобы, кветкі.

**Фота Яўгена КАЗЮЛІ.**

*Творчасць нашых чытачоў*

*Анатоль БАРОЎСКІ*

## Восеньскае

Так, змрочны час цяпер настаў,
а ажыву, мо толькі ўвесну, —
не мёртвы, не жывы — такі мой стан,
са мной чужынцам ў маім доме цесна.
Такіх, як я, штурхаюць, пнуць назад,
каб зноў жылі ў рабстве і ў няволі...
Ды нельга жах свой паказаць,
не будзем скардзіцца на долю!
Айчына любая! Часова ты ў бядзе,
Іуды не заслоняць сонца...
Мілей цябе мне не знайсці нідзе.
Ты будзеш жыць. І жыць — бясконца!

*Верасень, 95.*



## Увага, конкурс!

Польскае радыё для замежжа — V праграма праводзіць па 31 снежня г.г. конкурс для слухачоў радыёперадачаў на беларускай мове.

Сярод тых, хто ў снежні слухае гэтыя перадачы, будуць разлясаваныя два радыёпрыёмнікі ды шматлікія іншыя ўзнагароды.

У рапартах пра чутнасць беларускамоўных перадачаў з Варшавы трэба ўказаць: дату, час, хвалю і ацэнку чутнасці, а таксама кароткія заўвагі пра змест перадачы.

Водгукаў чакаюць да паловы студзеня 1996 г., на канверце пазначыць: «КОНКУРС».

Прозвішчы тых, каму паспрыяе лёс, будуць абвешчаны ў эфіры ў палове лютага будучага года. Усе,. хто атрымае ўзнагароды ў конкурсе, будуць паінфармаваныя аб гэтым таксама і ў пісьмовай форме.

*P.R.*

*Вандроўкі*

# Шляхам асветніка

«Мы не можам не думаць аб мінулым, яно — аснова нашага сёння і нашай будучыні. І гэтая такая неабходная і такая натуральная повязь часоў ніколі не павінна ні слабець, ні, тым больш, губляцца». Гэта — радкі з кнігі Г.А.Кахаsucceededоўскага «Повязь часоў». Яму і была прысвечана аўтобусная вандроўка сяброў клуба «Беларуская хатка» па маладзечанскіх ваколіцах.

Гэта — адметны рэгіён Беларусі. Толькі ў Маладзечне можна шпацыраваць па Вялікім Гасцінцы, па вуліцы Забэйды-Суміцкага, толькі тут на галоўнай плошчы стаіць помнік змагарам за вольную Беларусь. А ў Маладзечанскім раёне пастаўлена столькі памятных знакаў, помнікаў, мемарыяльных дошак пісьменнікам, дзеячам культуры, палітыкам, колькі не набярэцца ў некаторых абласцях. Усё гэта — намаганнямі маладзечанцаў Г.Кахаоўскага, М.Ермаловіча, В.Ляшковіча і іншых патрыётаў сваёй зямлі. І цяпер на Маладзечаншчыне ўтвараюцца новыя асяродкі культуры. Ужо год прымае гасцей літаратурна-краязнаўчы музей у Гарадку, а неўзабаве ў Плябані адчыніцца музей паўстання 1863 года.

Па дарозе ў Маладзечна нельга было мінуць Радашковічы, нельга было не наведаць Веру Андрэеўну Тарашкевіч. Ёй ужо за 90. На жаль, яе асабістыя намаганні, намаганні Сымона Белага, Міколы Лінніка стварыць у доме Тарашкевіча мемарыяльны музей марныя. Няма ў Радашковічах і помніка Купалу, не адзначана тут і памяць пра Радашковіцкую беларускую гімназію імя Скарыны. Добра, што каля аптэкі ўстаноўлены памятны знак Ядвігіну Ш.: у Радашковічах ён працаваў памочнікам аптэкара. Згадалі мы і пра ягоную дачку Ванду Лявіцкую, што нарадзілася тут 100 гадоў таму. Педагог, асветніца, палітычны дзеяч, яна ў часы рэпрэсіяў не адраклася ад свайго мужа Язэпа Лёсіка, ад Беларусі, мусіла пакінуць радзіму і памерці далёка ад яе.

Звычайна, у кожнай нашай вандроўцы знаходзіцца чалавек, па родных мясцінах якога мы праязджаем. Вось жа, мінаючы купалаўскую Вязынку, мы даведаліся, што ў суседніх Сяледчыках нарадзілася Ірына Аляксандраўна Карэўка, беларускі селекцыянер, супрацоўнік Батанічнага сада АН Беларусі. Яна вывела новыя гатункі вяргіняў: «Купалінка», «Ефрасіння», «Стэфанія» ды «Родны кут», які атрымаў медалі на міжнародных выставах.

Каб пабачыць абкладзеныя камянямі курганы-магілы жрацоў і жрыц боства Купалы — трэба было адолець стромкі схіл лясістай, расквечанай усімі восеньскімі фарбамі Дзявочай гары ля вёскі Дуброва. Раней тут раслі 2 дубы і бяроза —на месцы, дзе, па легендзе, былі пахаваны 2 хлопцы і жывой закапана дзяўчына. І як нечакана было ўбачыць на вяршыні самага буйнага кургана Дзявочай гары малады дубок і бярозу. Іх пасадзіў археолаг Э.Зайкоўскі. У гэтай жа вёсцы захаваліся стогадовыя будынкі бровара.

Пры ўездзе ў мястэчка Гарадок, ля плаціны вадасховішча стаіць стары млын, на жаль, не аднаўлены. У гэтыя мясціны нас прывабіла гарадоцкае замчышча, унікальны археалагічны помнік. Нялёгка ўзлезці на высокі вал, аддзелены ад цытадэлі замка балацінай, з якой выцякае ручаіна. Нечаканай была сустрэча са святаром адроджанай нядаўна царквы ў Гарадку айцом Аляксандрам, які распавёў пра аднаўленне храма, ягоныя іконы і пра ўласныя краязнаўчыя пошукі ў ваколіцах Гарадка. З мясцовым літаратурным музеем пазнаёміў нас ягоны дырэктар Мікола Іванавіч Выдрыцкі, улюбёны ў сваю справу чалавек.

Праязджаючы па вёсцы Селеўцы, мы ўбачылі драўляную бажніцу, што самотна стаіць сярод поля. Неўзабаве гэтая цудам ацалелая царква святой Ганны будзе перавезена ў суседняе Хоўхлава на царкавішча. У Хоўхлаве захаваўся касцёл, пабудаваны з дрэва ў XVIII стагоддзі. Ён цяпер рэстаўруецца. Хоўхлава славутае тым, што тут 10 гадоў жыў і плённа працаваў Сымон Будны. Цікава, што пасля Хоўхлава Будны жыў у Заслаўі і мы, вяртаючыся ў Менск, міналі Заслаўе, нібыта паўтарыўшы праз 400 з лішнім гадоў шлях вялікага асветніка.

У Хоўхлаве пахаваны двое незвычайных людзей: Уладзімір Барысавіч Зянько — слесар Маладзечанскага дэпо, рацыяналізатар-вынаходнік, паэт і фалькларыст — і ягоная маці Зося Сымонаўна Пачыкоўская, якая наспявала свайму сыну амаль 300 песень, расказала шмат казак, жартаў, загадак. Уладзімір Зянько памёр у 1987 годзе, так і не ўбачыўшы сваёй кнігі «Спадчына маёй маці», якая выйшла ў 1993 годзе.

У вёсцы Груздава адбылася сустрэча з маладым мастаком Леанідам Станкевічам. Ён паказаў нам некалькі сваіх карцін ды павёў нас да старой Груздаўскай царквы, куды пасля аднаўлення вернецца абраз Груздаўскай Божай Маці, да касцёлішча са склепам магнатаў Дэдэркаў у Аборку. У Аборку сустрэў сваё каханне пасля вяртання на Беларусь Тамаш Зан, тут бываў і Ф.Багушэвіч.

За адзін дзень мы наведалі толькі невялікі куток Маладзечаншчыны. Добрае надвор'е, добрыя сустрэчы заахвоцілі нас да новых вандровак па гэтым краі.

**Ігар ГАТАЛЬСКІ.**

## І смех і грэх

### *У старых фаліянтах*

#### У вязніцы

Два габрэі сядзелі ў турэмнай камеры. Адзін з іх расхваляваны прахаджваўся шыбкімі крокамі па камеры. Другі са спакоем стоіка ляжаў на нарах. Нечакана ляжачы запытаўся:

— Слухай, ты чаго так разлётаўся? Ці ты можа думаеш, што як ходзіш, то ўжо не сядзіш?

#### Навошта?

У купэ едуць два слынныя рабіны. Мінаюць гадзіны, але абодва мудрацы не перакінуліся паміж сабой ні слоўцам. Адзін са спадарожнікаў, здзіўлены ад гэтага маўчання, пытаецца:

— Панове рабіны, вы абодва слынныя цадыкі, і я думаю, што стану сведкам нейкай цікавай дыскусіі паміж вамі, а вы не праказалі ні слова за ўсю дарогу. Чаму так?

— Бачыце, пане, — адказвае адзін з рабінаў, — ён — вялікі рабін, я — вялікі рабін. Ён усё ведае, і я ўсё ведаю. Дык пра што тады мы будзем дыскутаваць?

#### Просьбы да пана Бога

На габрэйскім цвінтары адбываецца пахаванне дзіцяці. Над трунай стаіць матка і галосіць:

— Каханы сыночку, як прадстанеш перад абліччам Творцы, выпрасі ў яго шмат грошай і шчаслівай старасці для тваіх бацькоў. І выпрасі ва Усямоцнага, каб твае дзве сястры мелі вялікі пасаг, а твае браты Натан і Давід, каб знайшлі добрых і прыгожых жонак, набожных і багатых паненак. А твайго старэйшага брата Хаіма, каб звольнілі з войска. І папрасі Ягову, каб твой улюбёны дзядзька Абрам нарэшце паздаравеў...

Побач, каля заводзячай так маткі, стаіць, абапершыся на рыдлёку, грабар. Калі з літанняў ужо відаць, што ім не будзе канца, грабар кранае кабету за плячо і кажа:

— Каханая пані, калі маеш столькі спраў да Бога, то не пасылай гэткае малое дзіця, а ідзі сама.

#### Настаўнік ігры на фартэпіяна

У венскай прэсе з'яўляецца аб'ява наступнага зместу:

«Для дзяцей барона Ротшыльда патрабуецца настаўнік ігры на фартэпіяна, які ведае англійскую і французскую мовы. Звяртацца да сакратара барона Ротшыльда».

На наступны дзень у палацы барона Ротшыльда з'явіўся несамавіты, па-хасідску прыбраны галіцыйскі габрэй.

— Я па аб'яве.

Сакратар Ротшыльда са здзіўленнем глядзіць на яго.

— Перапрашаю пана, але ці ведаеце вы англійскую і французскую?

— Не, не ведаю.

— А ці можаце вы даваць урокі ігры на фартэпіяна? — пытаецца далей сакратар.

— Не, не ўмею.

— То чаго вы тады прыйшлі?

— Я прыйшоў паведаміць барону Ротшыльду, каб на мяне не разлічваў.

Вычытаў **А.ДЫШЛЕВІЧ.**

### *Рэальнае двухмоўе*

#### Па-аршанску

Орша, вул. Леніна, крама «Дзіцячы свет». Чытаем надпіс на вітрыне з вуліцы: «Тавары для девочек і хлопчыкаў».

На чыгуначным вакзале сёлета прачыталі наступнае:

«Аб'яленне

1 ноября 1994 г. отменяется право бесплатного проезда».

Зразумела, правінцыя заўжды бярэ прыклад са сталіцы.

**Двухмоўе па-менску.** Яно тут атрымала назву «дзеянцееўская трасянка». Рэалізуецца яно наступным чынам. Прыклад паказваюць сродкі масавай інфармацыі. Напрыклад, Беларускае тэлебачанне ўвечары ў кастрычніку голасам спартыўнага дыктара паведаміла навіны: "У спаборніцтве ўдзельнічалі 4 лошади, адна лошадь абагнала». Добра, што ў нас ведаюць людзі суседнія славянскія мовы. Ім хоць расійскія словы скажы, хоць польскія — усё роўна зразумеюць.

На вітрыне гаспадарчай крамы «Бытавая хімія» з вуліцы Пляханава чытаем такія фразы: «В вашу хатнюю мастэрню», «Прапануем в падарунак».

**С.СТРУМЕНСКІ.**

### *Прэса-куламеса*

#### Крок наперад — год назад і камсамольскі білет з будучыні

26 кастрычніка 1943 г. партызанскія злучэнні... накіраваліся на правабярэжнае Палессе... 4 лістапада 1942 года выйшлі ў раён Гомеля... Мікалай Якушэнка прывёў да камандзіра абарваную, заплаканую дзяўчынку гадоў шаснаццаці... Яна зняла рваную фуфайку і з-пад падкладкі выцягнула камсамольскі білет, які быў выдадзены 14 красавіка 1944 г...

*«Чырвоная змена», 24.08.1995.*

Безумоўна, партызаны ўмелі перахітрыць ворага. Ніякі б фашыст не здагадаўся шукаць партызан 1943 г. у мінулым годзе, а тым больш шукаць камсамольскі райкам у будучым годзе ды яшчэ на вызваленай тэрыторыі.

#### Збоі ў зямных шасцернях

Даўжыня дня 14 красавіка 1995 года — 13.58

Даўжыня дня 15 красавіка 1995 года — 13.03

*Родны край. Адрыўны каляндар на 1995 год.*

Як бачым, за суткі дзень скараціўся на 55 хвілін. Відаць, змазчыкам зямной восі прызначылі нейкага халтуршчыка ці нават выпівоху.

**Я.К.**


Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1. Тэлефон: 33-17-83.

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Сіцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 6148

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку»: 220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 4500 паасобнікаў.
Падпісана ў друк 4.12.1995 г.
у 15 гадзін.